К КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 36 (298) 13 — 19 верасня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ

TV Усе каналы!

# НЕ СПАЗНІЦЕСЯ СУСТРЭЦЦА...

Ён бывае: у кропачкі, у кветачкі, паласаты, пярэстакаляровы і зусім нерасквечаны. А пад ім ад восеньскага дажджу хаваюцца: шчаслівыя і нешчаслівыя, зласлівыя і незласлівыя нашыя... твары? А, можа, душы? Зайздросныя і незайздросныя нашы лёсы? У кропачкі, у кветачкі, у клетачкі... Але чамусьці ў памяці ўзнік класічны парасон. Вялікі Парасон Улады. Яго ў час непагадзі пяшчотна распасціраюць магутныя ахоўнікі над дзяржаўнымі мужамі. Такі ўжо, выпрацаваны чалавецтвам, этыкет...

Здавалася б, дзіўная асацыяцыя: парасон — душа — улада. Ды не.

“Душа-парасон”, нібы Усявышні, ахутае цябе залатым святлом міласэрнасці і абароніць ад нягод. Такая Улада Душы Маці Тэрэзы. І над ёй сёння мільярды людзей планеты будуць трымаць кожны свой сімвалічны парасон, мокры ад слёз смутку.

“Парасон-душа” ахоўвае толькі ўласнае крэсла пад халодным Месяцам уладнасці. І няма справы той душы да болю хворага і нямоглага, галоднага і асірацелага, да крыўды Генія, забытага і адзінокага. Не ведаю, але, мусіць, мудры Максім Танк прадбачыў яшчэ ў тыя далёкія гады, як парасон чэрствасці чорным крылом раўнадушша агародзіць ягоны бальнічны ложак ад дабрыні. Наўрад ці думаў ён, пішучы прыватную віншавальную паштоўку Заіру Азгуру, што радкі з яе

“Спяшайцеся з паэтам стрэцца, Яго паслухаць, покуль зноў Ён падарожнічаць па свеце Са сваёй песняй не пайшоў” — гэта актуальны сёння заклік. Заклік да мяне, цябе, да ўлады: раскрыйце над Творцай “душу-парасон”, пакуль Творца жывы...

Гэта першамайская паштоўка і фотаздымак — з майго журналісцкага архіва. Як мы кажам, эксклюзіў. І фота гэтае рабіў не бяздушны папарацы. І зноў жа, здымак — “не для прэсы”. Угледзьцеся: бальнічны ложак... Паэт... і раскрытая “душа-парасон” над ім... Раскрытая рукамі маленькага Максіма, якога яго бацька, мастак Аляксандр Кішчанка прывёў да Максіма Вялікага. Мастак разумеў Паэта...

У семнаццаты дзень верасня Максіму Танку споўнілася б 85 гадоў. Ён мог бы яшчэ жыць.... Раскрыйце “душу-парасон”!

Людміла КРУШЫНСКАЯ



Ля помніка Я. Коласа

Ён з песняю непераможнай
Край абышоў і ўсіх сяброў.
Пасля няспынных падарожжаў
Вярнуўся ў сталіцу, дамоў.
[illegible]

Спяшайцеся з паэтам стрэцца,
Яго паслухаць, покуль зноў
Ён падарожнічаць па свеце
Са сваёй песняй не пайшоў.

Дарагі [illegible] Заір [illegible]
[illegible]

Максім Танк



# БЕДНЯКІ СВЕТУ АСІРАЦЕЛІ

**Маці Тэрэза, "Маці ўсіх бедных", "Маці з Калькуты", стваральніца Ордэна Міласэрнасці, памёрла 5-га верасня пасля вячэрняй малітвы ў 21 гадзіну 30 хвілін у будынку свайго Ордэна. Кажуць, пагаршэнне стану здароўя 87-гадовай святой выклікалі звесткі аб смерці прынцэсы Дзіяны, якую Маці Тэрэза добра ведала асабіста. Пахаванне прызначана на 13 верасня: другую суботу запар свет смуткуе, аплакваючы сваіх лепшых жанчын.**

Албанка Марыя з Македоніі стала каталіцкай манашкай Тэрэзай 50 гадоў таму, "каб служыць Богу сярод найбяднейшых з бедных". Менавіта яе сціпласць парадаксальным чынам праславіла яе. Яна і памочніцы з заснаванага ёй Ордэна Міласэрнасці аказваліся там, дзе людзі цярпелі ад бедстваў і прыгнёту: у атручаным газамі Бхапале, залітым паводкай Бангладэшы, у галадаючай Эфіопіі і разбураных землятрусам гарадах Арменіі. "Анёл-ахоўніца слабых і гінучых" называлі яе па ўсім свеце. Між тым, калі яе спыталі, ці не ў памяць аб Святой Тэрэзе з Авіла яна абрала сваё манаскае імя, адказ быў: "Не, я назвалася не па вялікай Тэрэзе, але па іншай, "маленькай" — Тэрэзе з Лісікса". У 1979 годзе Маці Тэрэза атрымала Нобелеўскую прэмію міру. Прымаючы яе, "жывая святая" казала: "Я прымаю яе ў імя беднякоў, таму што, даючы мне гэтую ўзнагароду, *яны* (моцныя свету) прызнаюць існаванне бедных у свеце".

У 1980 годзе ёй нададзены вышэйшы ганаровы тытул Індыі "Бхарат Ратна", а ўвогуле за дбайнасць аб людзях нястачных, заняпалых фізічна і псіхічна, хворых на праказу, а таксама сацыяльна прыгнечаных жанчын Маці Тэрэза не аднойчы ўшаноўвалася сусветным супольніцтвам. Яна рэдка гаварыла пра сябе асабіста, гэта больш за ўсё ўражвала яе візіцёраў, сярод якіх бывалі высокія дзяржаўныя дзеячы, мільянеры, манархі... Пасля першага сардэчнага прыступа, у 1990-м, калі яна была шпіталізавана, Ватыкан шукаў новую кандыдатуру на месца галавы Ордэна Міласэрнасці, ды так і не знайшоў. Падлячыўшыся, Маці Тэрэза працягвала сваю працу аж да апошніх хвілін жыцця. Пасля яе застаўся яе Ордэн, 4 тысячы сясцёр-манашак, якія яшчэ зробяць шмат добрых спраў на карысць чалавецтву. Але беднякі Зямлі асірацелі...

**Ігар КЛОКАЎ**

*Ліст з рэдакцыі*

# ЦІ БУДЗЕ ІСНАВАЦЬ ПЛЕНЭР ІМЯ ЦВІРКО?

*Жывецца мастакам сёння не салодка. Пра гэта было ўжо шмат сказана-пераказана. Але мы — пра іншае.*

*Нягледзячы на ўсе сацыяльна-эканамічныя цяжкасці, мастацкае жыццё Беларусі тым не менш не сціхае, а паводле некаторых параметраў і выпераджае дзень сённяшні.*

*Стракатымі і разнастайнымі вернісажамі нікога ўжо не здзівіш. Усе нібыта прызвычаіліся да таго, што амаль кожны тыдзень ці там, ці тут адкрываюцца новыя выставы.*

*А вось з'яўленне "персанальных" помнікаў мастакам — з'ява ў нашай краіне неардынарная. Паводле нашых падлікаў, на сённяшні дзень у краіне ўжо ўсталяваны ажно шэсць помнікаў (не лічачы надмагілляў і інтэр'ерных бюстаў): Марку Шагалу — у Віцебску, Іллі Рэпіну — у Здраўнёве пад Віцебскам, Язэпу Драздовічу — у Мінску, Вітольду Бялыніцкаму-Бірулі — у Магілёве і Бялынічах, Паўлу Масленікаву — у Магілёве, Напалеону Ордзе — у Іванаве, што на Брэстчыне.*

*Нядаўна адкрылася унікальная карцінная галерэя імя П.В.Масленікава ў Магілёве, актыўна працуе Музей сучаснай беларускай скульптуры імя А.А.Бембеля.*

*А колькі міжнародных і рэгіянальных пленэраў адбылося за апошнія гады на Беларусі! Гэта пленэры Марка Шагала, Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Анатоля Анікейчыка, Напалеона Орды, Івана Хруцкага; гэта разнастайныя пленэры скульптуры, жывапісу і акварэлі ў Мінску і Гродне, у Дудутках і на Брэстчыне.*

*Карацей, Беларусь стала адной з самых "пленэрных" краін блізкага і нават далёкага замежжа. Гэта ўражвае. Гэта натхняе, асабліва калі гутарка ідзе пра пленэры, што адбыліся як факт высокай творчасці і — што не менш важна — як факт шчыльнага яднання мастацкіх сіл з самых розных гарадоў і краін. Апошнюю акалічнасць пераацаніць цяжка, бо знакаміты прынцып інтэграцыі мастакі менавіта на такіх пленэрах рэалізуюць на ўсю моц, без усялякіх там ідэалагічных перашкод і палітычных прыхільнасцяў.*

*На гэтым, так бы мовіць, пазітыўным творчым фоне трэба ўсё ж з горыччу азірнуцца трошкі назад. Размова ідзе пра тое, што дасюль не ўвекавечаная памяць тых славутых мастакоў, якія пры жыцці зрабілі годны ўнёсак у станаўленне і развіццё нацыянальнага выяўленчага мастацтва, але сёння засталіся нібыта за "бортам" нашага духоўнага жыцця. Хіба, скажам, такія майстры, як Анатоль Анікейчык, Яўген Зайцаў, Сяргей Селіханаў, Сяргей Каткоў, Альгерд Малішэўскі, Аляксандра Паслядовіч не заслужылі хаця б сціплай мемарыяльнай дошкі?*

*А Віталь Канстанцінавіч Цвірко? Наш выдатны пейзажыст, імя якога даўно ўвайшло ў гісторыю нацыянальнага мастацтва. Ён для Беларусі, як Левітан — для Расіі. Пранікнёны, далікатны і тэмпераментны каларыст, чалавек неспакойнага сэрца і моцнага пачуцця, ён заслужыў пры жыцці называцца гонарам нацыі.*

*Ягоныя творы сцвярджаюць светлы і добры пачатак, зачароўваюць адкрытай душою іхняга стваральніка, апяваюць моц і пяшчоту, прыгажосць і магутнасць роднай краіны.*

*Пачатак біяграфіі Віталя Цвірко — вёска Радзеева, што на Гомельшчыне: песні, казкі, легенды, кветкі, гукі і пахі Айчыны. Потым быў Гомель, заняткі ў М.Станюты і А.Тычыны. Затым — Мінск, першы настаўнік у мастацтве — Кандрат Крапіва. Вучоба ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме і Маскоўскім мастацкім інстытуце імя В.І.Сурыкава — у С.Герасімава і І.Грабара. Першыя творчыя ўзлёты. Цудоўныя паводле свайго лірызму камерныя пейзажы. А пасля вайны — чароўныя жывапісныя рапсодыі і філасофскія пейзажы-роздумы.*

*І — актыўная грамадская дзейнасць у Саюзах мастакоў БССР і СССР. І бліскучая педагагічная старонка ў жыцці Майстра як аднаго з першых стваральнікаў БДТМІ, ягонага педагога і рэктара. І — дзесяткі, сотні выстаў на радзіме і за мяжой. Прызнанне. Слава. І вечныя сумненні. Вечны пошук... Такім быў нястомны працаўнік. Быў.*



*Мінула зусім нямнога часу, як Віталь Канстанцінавіч пайшоў ад нас. Усяго чатыры гады — і аказаўся раптам нібыта забытым! На жаль, для нашай ментальнасці гэта — справа звычайная: хутка забывацца на тых, хто яшчэ ўчора быў побач з намі...*

*Праўда, Цвірко застаўся ў сэрцах удзячных вучняў і мастацтвазнаўцаў, якія ведалі яго шмат гадоў. І ўсе яны — Л.Шчамялёў, В.Грамыка, Л.Дударэнка, Г.Паплаўскі, Б.Аракчэеў, Д.Алейнік, У.Стальмашонак, П.Данелія, А.Бараноўскі, В.Пратасеня, Г.Вашчанка, І.Рэй, А.Кішчанка, М.Данцыг, Б.Крэпак, А.Сурскі, І.Назімава і шмат хто яшчэ — у адзін голас кажуць: для такога Мастака наспела пара ўжо нешта зрабіць!*

*Мы гаворым не толькі пра помнік альбо мемарыяльную дошку. Мы гаворым цяпер пра больш "жывую" памяць — пра наладжванне рэгулярных пленэраў жывапісу імя В.К.Цвірко. Такія пленэры маглі б праводзіцца на радзіме мастака — на Гомельшчыне альбо на Міншчыне, дзе майстар стварыў усе свае лепшыя палотны.*

*В.Цвірко, разам з В.Бялыніцкім-Бірулем, быў адным з самых "пленэрных" мастакоў свайго часу. Для яго Беларусь, якую ён абышоў з эцюднікам уздоўж і ўпоперак, была ягонай хатай і майстэрняй. Праз гэтую "майстэрню" прайшлі ягоныя шматлікія паслядоўнікі, якія навучыліся ад Майстра не толькі прафесійным асновам, але і ўменню самастойна разважаць і быць індывідуальнасцю.*

*Мяркуем, што Міністэрства культуры і Саюз мастакоў разам з зацікаўленымі арганізацыямі і асобамі маглі б узяць на сябе гэтую высакародную місію.*

*У лютым 1998 года народнаму мастаку Беларусі, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі краіны В.К.Цвірко споўнілася б 85 гадоў. І лепшым падарункам да ягонага юбілею мог бы быць І Міжнародны пленэр ягонага імя, які варта было б наладзіць вясной альбо ўлетку наступнага года на Гомельшчыне альбо Міншчыне.*

**"К"**



# ПЕРАСТАЦЬ ЧАПЛЯЦЦА

За вакном аўтобуса праплываў няхітры вясковы краявід. Дамы, агароджы, палі...

— А якія ў нас могуць быць культурныя запыты? — адвяла погляд ад вакна жанчына, якая сядзела побач, і адказала ці то жартам, ці то ўсур'ёз: каб курачкі-чубаткі несліся, каровы даіліся, каб парсючкі, значыць, не хварэлі. Дый бульба добра радзіла, не гніла.

— А ўвечар чым займацца?

— А тэлевізар нашто?.. Так, мала хто цяпер да нас ходзіць, — адкідае іронію мая суразмоўца Людміла Пятроўна Макарава, дырэктар Юцкоўскага сельскага Дома культуры. — Раней, з дзяцінства памятаю, дарогу да Дома культуры ведаў кожны вясковы падлетак. Людзі без усялякіх запрашэнняў па вечарах ішлі на рэпетыцыі, спеўкі.

— А што ў наш час перашкаджае вяскоўцам збірацца? — запытаў я. — Ці не да культуры стала, абы дзень да золку дацялёпаць? Ці няма каму людзей падняць? Запрасілі б для пачатку сваякоў, сяброў. Глядзіш — і пайшло б.

— Кажаце, няма каму арганізаваць? — абураецца мая суразмоўца. — Дый колькі разоў я хадзіла па дварах, угаворвала: ну прыходзьце на рэпетыцыю, развучым што-небудзь. Той няма, другая хворая, трэцяй унукаў няма на каго пакінуць. Праўда, як ехаць куды выступаць — неяк перамагаюцца, глядзіш, адна ідзе, другая. Пра хваробы забываюць.

— Не грашы, Пятроўна, — уступае ў размову адна з удзельніц мясцовага хору баба Насця. — Здароўе ўжо не тое. А песні, яны таксама здароўя патрабуюць.

— А хто-небудзь на змену ветэранам у хор прыйшоў? —цікаўлюся я.

— Былі ў нас тры дзяўчыны. Таксама спявалі старажытныя песні. Дый не затрымаліся... Раней і сталыя людзі ў клуб хадзілі кіно паглядзець, а цяпер не. Тэлевізар усё выцясніў...

Гэтая размова сталася сведчаннем таго крызісу, у якім апынулася сфера культуры ў сельскай мясцовасці Беларусі. І хоць у нашым Дзяржынскім раёне дзейнічаюць больш за 120 калектываў мастацкай самадзейнасці (сярод іх чатыры маюць званне "Народны", а адзін — тэатр лялек пасёлка энергетыкаў — "Узорны"), якія аб'ядноўваюць каля 1200 выканаўцаў, людзей, з маленства ўлюбёных у музыку, песню, танец, слова, — культура і мастацтва сёння пастаўлены на грань выжывання. Духоўныя каштоўнасці зведзены да ўзроўню тавару, станоўчасць культуры вымяраецца паняццем рэнтабельнасці. Між тым сапраўднае мастацтва, як і культура цалкам, ніколі рэнтабельным не было, яно заўсёды жывілася падтрымкай мецэнатаў альбо дзяржавы. Але наша дзяржава "бедная", а ў "новых" падыход да культуры, як правіла, чыста спажывецкі. У выніку згортваюцца цэлыя культурныя галіны. З прычыны дарагавізны арэнды практычна спынілася выставачная дзейнасць. Крызіс мастацтва і канкурэнцыя тэлебачання літаральна "здушылі" кінапракат. Скарачэнне асігнаванняў пазбавіла бібліятэкі магчымасці папаўняць і абнаўляць свае кніжныя фонды. Не толькі кнігі, але нават перыядычныя выданні ў апошнія гады сталі цяжкадаступныя шырокаму колу чытачоў. І калі зусім нядаўна ўся наша краіна была пакрытая густой сеткаю дамоў культуры, клубаў, музеяў, спецыялізаваных школ, бібліятэк, то цяпер, асабліва на сяле, засталіся нешматлікія і паасобныя "агмені культуры", жыццё ў якіх яшчэ цепліцца стараннямі энтузіястаў.

Не сакрэт, што людзі, занятыя "здабываннем" хлеба надзённага, усё

# ЧАМУ Ў МАСТАКОЎ АПУШЧАНЫЯ КРЫЛЫ?

Ліст у рэдакцыю

Я — мастак. І ў мастацтве прапрацаваў не адзін дзесятак гадоў. Усякае бачыў. І таму мяне вельмі хвалюе адно пытанне. Дакладней, хвалюе не толькі мяне, а, магчыма, усіх творцаў, якім маці-прырода дарычыла несці "ў людзі" самае светлае, самае цудоўнае, самае добрае...

Не сакрэт, што за апошнія гады мастакі рэспублікі апынуліся ў вельмі складаным становішчы. Карацей кажучы, глохне наша прафесійнае выяўленчае мастацтва, а мы хоць бы што, і калі так далей пойдзе, то мы будзем як і цыганы. Няма ж цыганскага выяўленчага мастацтва. Ёсць цыганскія песні, мелодыі, а жывапісу, карцін, скульптуры, графікі, на жаль, няма. Вось і ў нас усё ідзе да гэтага. Калі ласка, невялічкі прыклад: у Палацы мастацтва з помпаю адкрываецца выстава "Мастак і горад", прысвечаная юбілею сталіцы. Мастак прынёс сваю карціну на выставу, яе ахвотна прынялі, на конкурснай аснове адабралі і павесілі. Шмат гасцей, віншуюць мастака з удачай, пахвалілі па радыё, паказалі па тэлебачанні, надрукавалі ў газеце. Аўтар артыкула атрымаў ганарар, усе арганізатары выставы, у тым ліку дырэктар палаца, і ўсе супрацоўнікі аддзелаў культуры атрымалі зарплату, пачынаючы ад міністра і канчаючы тым, хто там падмятае.

На першы погляд, усё вельмі добра, але калі паглядзець на гэта трохі з другога боку, то атрымліваецца іншая карціна. Закрываецца выстава, мастак забірае сваю карціну назад у майстэрню і ломіць галаву, каму яе прадаць, бо з выставы Міністэрства культуры не купіла (няма грошай на закупку). Канешне, можна прадаць карціну ў Мастацкім салонемагазіне, там часам купляюць, але ж скажыце, шаноўныя, ці шмат вы купілі ў гэтым годзе карцін? А калі хто і купляе, то вельмі рэдка і падбірае твор у асноўным пад колер шпалераў, а то і пад тон халата ці піжамы жонкі або цешчы. На вялікі жаль, сваіх траццяковых, мамантавых ці шчукіных няма, ды і бог ведае, ці будуць яны калі-небудзь у нас.

Далей. Як вы ведаеце, гравюру, літаграфію ці афорт проста ж у сябе на кухні не зробіш. Для гэтага патрэбна адпаведнае памяшканне, майстэрня, ручны друкарскі станок, мастаку-жывапісцу — майстэрня з вакном у столі, а скульптару яшчэ і яма з глінаю. Аб гэтым усе ведаюць. Ведаюць і тое, што гарсавет, жадаючы мець як мага больш грошай у кішэні горада, бярэ павышаную арэндную плату за рабочае месца мастака як з камерцыйнага прадпрыемства, якое прыносіць прыбытак, не заўважаючы розніцы паміж майстэрняю, што, напрыклад, пры камбінаце бытавога абслугоўвання, дзе ёсць і загадчык, і касір, і бухгалтар, і штатны мастак на зарплаце, і майстэрняю прафесійнага мастака, дзе працуе адзін чалавек і куды ён прыходзіць папрацаваць на некалькі гадзін у дзень, а то і не кожны дзень.



Акрамя ўсяго, скажам, за кватэру я плачу толькі за жылыя пакоі, а што датычыць майстэрні мастака, то тут налічваецца арэндная плата і за калідор, і за туалет, і за сходы, і за лесвічную пляцоўку, нават калі гэта нейкі катушок. Толькі ў так званай эліты Саюза мастакоў больш менш салідныя памяшканні, але такіх вельмі мала, а часцей за ўсё мастак знайшоў памяшканне сабе сам, за свае грошы прыстасаваў для работы, падвёў цяпло, ваду, электрычнасць. Я бываў у майстэрнях большасці нашых мастакоў, на вялікі жаль, працуюць яны не ў харомах. Ах, божа мой, аб гэтым можна шмат гаварыць, гэта асобная ды вельмі доўгая тэма! Мастаку немагчыма без рабочага месца, але за гэтае рабочае месца даводзіцца плаціць у некалькі разоў даражэй, чым нават за кватэру. Бо, акрамя звычайнай арэнднай платы, налічваюць яшчэ і падатак на зямлю, я ж называюся "арандатар"; падатак на "прэстыжнасць", бо вокны маёй майстэрні глядзяць на праспект; падатак на нерухомасць; на нейкую "дабаўленую стоімасць", эксплуатацыйныя выдаткі. За электрычнасць, за кран з вадою, за вываз смецця накручваецца за год салідная сума. Я, як нармальны чалавек, ужываю вады ці той жа каналізацыі, як і ўсе жыхары, і аплачваю за гэта па месцы жыхарства, але ж у майстэрні ў мяне кран з вадою, і тут, паколькі я называюся "арандатар", мне налічваюць аж у дзесяць разоў даражэй! Я не магу нікому нічога даказаць, плачу. Я мастак-графік, і самая большая колькасць сыравіны, што я магу за год перапрацаваць, гэта аркушаў 20, ну 30 паперы. Некалькі алоўкаў, пару цюбікаў друкарскай фарбы, і з маёй майстэрні не можа быць аж чатыры кубаметры смецця, як мне налічваюць: гэта ж не шавецкая майстэрня, дзе ёсць абрэзкі, акрайкі, але я не магу нікому нічога даказаць і плачу, бо выганяць з майстэрні. Карацей кажучы, дзяруць сем скур.

Заходжу ў бухгалтэрыю Саюза мастакоў: "Когда будете платить за мастерскую? У вас долг!" Адказваю: няма грошай. Купіце, кажу, маю карціну, што на выставе, заплачу авансам хоць за год наперад. "А зачем мне ваша картина, сто лет она мне не нужна. Мне нужны наличные деньги". Вы ж, кажу, не плаціце за свой рабочы кабінет, за сваё рабочае месца. Складваецца ўражанне, што нехта спецыяльна рашыў зліквідаваць нас.

Стала нявыгадна быць мастаком, мы сталі непатрэбныя грамадству, кіраўніцтву дзяржавы. Сталася так, што многія таленавітыя мастакі, каб выжыць, зарабіць на хлеб, вымушаны займацца чым хочаш, толькі не творчасцю. І калі і так далей пойдуць у нас справы, то і Міністэрства культуры і міністра нам не трэба будзе, дастаткова будзе нам звычайнага Дома народнай творчасці. Гэта вельмі добра відаць па выставах апошніх гадоў, дзе падае прафесійны ўзровень выяўленчага мастацтва, якое толькі і трымаецца сёння на энтузіязме. Але ж гэта не тая дарога, па якой трэба ісці. Гэта дарога ў нікуды. Мастакі сталі самай беднай катэгорыяй працаўнікоў культуры. Многія таленты, больш шустрыя, імкнуцца пакінуць нас, выязджаюць заграніцу і там расцвітаюць. А мы? Мы з вялікаю помпаю імкнемся прымазацца да сусветнай славы нашага земляка Марка Шагала, нават музей яму зрабілі. Але чамусьці ніхто ніколі не ўспамінае, чаму той жа Шагал уцёк, так, так, уцёк у Парыж. І я ўяўляю, што з ім было б, каб ён гэтага не зрабіў? Чаму ніхто не ўцякае з Парыжа да нас? У чым тут справа?

Ува ўсіх цывілізаваных краінах свету выяўленчае мастацтва займае пачэснае месца. Гэта можна заўважыць хаця б гледзячы тэлевізар. Уважлівы глядач не мог не заўважыць, што ўсе інтэр'еры багата ўпрыгожаны карцінамі. На жаль, наша традыцыйная беднасць, а мо і агульны нізкі культурны ўзровень, не дае падстаў, каб гаварыць аб гэтым. Бываючы ў розных дзяржаўных установах, я, акрамя ўсяго, звяртаў увагу і на гэтую дробязь. Вельмі рэдка даводзілася бачыць на сцяне ў кабінеце нават і высокага рангу дзяржаўнага чыноўніка арыгінальны твор мастацтва. Многія не адчуваюць у гэтым патрэбы, бо выхаваны яны ў сем'ях, дзе альбо наогул быў нізкі культурны ўзровень, альбо проста было не да гэтага, не да карцін. Школа не прывіла яму цікавасці да мастацтва. І вось зараз ён дасягнуў высокага рангу па службовай лесвіцы, але ў гэтым пытанні застаўся духоўна бедны. Магчыма, гэта тэма для размовы не толькі на ўзроўні міністэрстваў і ведамстваў.

Чаму мы, мастакі, сталі нейкія непатрэбныя, не магу зразумець. Вельмі крыўдна, што глохнуць таленты, а мы хоць бы што. Чаму такая неразумная палітыка ў адносінах да роднага выяўленчага мастацтва? Адзін выстрал у феерверку на свяце горада каштаваў, кажуць, даражэй, чым гадавы бюджэт усяго Саюза мастакоў! З нейкім болем у сэрцы гляджу я на нашых мастакоў, на іх апушчаныя крылы, патухшы творчы агеньчык. Уявіце, што прыйшоў да нас Рэмбрант альбо Рэпін, толькі не ў вянку славы, а як пачатковец. Дзе ён апынецца пры цяперашнім стане рэчаў?

А што датычыць грошай, гэтай марнай рэчы, як казаў класік, то іх заўсёды не хапала на мастацтва, але ж грошы, як і ўлада, валяюцца на дарозе, трэба толькі ўмець іх знайсці і падняць. Бо калі мастакі будуць арыентавацца толькі на тое, што купяць на Камароўскім рынку, то такім яно і будзе наша мастацтва — "камароўскае"... Можа, трэба пачаць з распрацоўкі дзяржаўнай праграмы развіцця мастацтва?

**Сямён ГЕРУС,**
**мастак**

*У ПРАЦЯГ ТЭМЫ*

# ЗА АДЖЫЛАЕ

меней цікавяцца культурай. Чалавеку сталага ўзросту ў той жа клуб далёка ісці, ды і не чакаюць яго там, як правіла. Кіно даўно ўжо не "круціцца". Вось і робяцца людзі ў рэдкія вольныя гадзіны ахвярай тэлевізара.

Моладзі таксама ў дамах культуры не бачна. Хіба што заглянуць юнакі перакінуцца партыяй у настольны тэніс. На музычныя інструменты для ансамбля грошай няма, а ахвотнікаў граць на балалайках, якія каторы год пыляцца ў кладоўцы, не знаходзіцца. Па меркаванні большасці хлопцаў і дзяўчат, сёння на вёсцы няма ўмоў для паўнавартаснага адпачынку. І сітуацыя ўсё пагаршаецца. За апошнія гады ў Дзяржынскім раёне закрыліся клубы ў вёсках Вольмечка, Нарковічы, Вязань, Петрашэвічы. На паўставачніках трымаюцца яны ў Шатанаўшчыне, Клыпаўшчыне. Нават дзейныя "агмені культуры" большую частку дня закрытыя на замок. Мала дзе днём працуе бібліятэка. У асноўным клубы адкрываюцца па вечарах. Але навошта? Рэдка дзе "пракруцяць" фільм, запусцяць гульцоў паганяць більярдныя шары. Яшчэ радзей правядуць дыскатэку. Да таго ж гэтыя ДК, клубы і клубікі ўзімку няма чым абаграваць, а ўлетку няма каму рамантаваць, не кажучы ўжо аб тым, што няма чым плаціць культработнікам.

Але, думаецца, заняпад клубнай сістэмы, да якога ўжо ўшчыльную падышла вёска, яшчэ не раўназначны краху сельскай культуры ўвогуле. У кожным раёне ёсць свае абрады і звычаі, песні і танцы, умельствы і рамёствы. Вось калі змоўкне фальклорны хор, памірае народны промысел, — гэта ўжо сур'ёзная незаменная страта. Але, смуткуючы аб гэтых стратах, ці варта спадзявацца на той жа клуб?

Не лепей, калі ў вёсцы будзе, скажам, самастойная бібліятэка, асобны маладзёжны цэнтр, кінатэатр, спартыўная зала, тая ж дыскатэка. Калі ёсць у вёсцы майстры і ўмельцы, яны могуць арганізаваць сваю майстэрню, сваю справу. Знойдуцца аматары тэатральнага мастацтва ці бальнага танца — ствараць студыю, суполку. І няхай усе гэтыя ўтварэнні не будуць моцна прывязаныя да клуба. Пры гэтым я зусім не настойваю на тым, каб сённяшнія клубы ці палацы культуры былі абавязкова перапрафіляваныя, і тым больш не выступаю за тое, каб іх памяшканні аддаваць у арэнду пад "камкі" ці перадаваць нейкім "дзялкам". Але пара, нарэшце, перастаць чапляцца за аджылыя формы арганізацыі вольнага часу, якія наскрозь рэгламентаваныя і цалкам сумныя для большасці вяскоўцаў. Няхай працуе тое, у чым ёсць патрэба ў жыхароў канкрэтнай вёскі. Так, напрыклад, у адным сельскім клубе мне давялося пабываць на вечарыне, прысвечанай Дню людзей сталага ўзросту. З'ехаліся на яго з навакольных вёсак дзядулі і бабулі. Мужчыны апранулі святочныя касцюмы з ордэнамі і медалямі, жанчыны — лепшыя свае сукенкі, яркія хусткі. На сцэне выступаў мясцовы хор, які выконваў народныя песні і песні любімых кампазітараў былых часоў. Пасля вячэры з гарбатай і ласункамі нашыя ветэраны развесяліліся, пайшлі ў скокі, заспявалі пад гармонік прыпеўкі. За гэтыя некалькі гадзін сталыя людзі памаладзелі, скінулі не адзін дзесятак гадоў. Свята скончылася позна ўночы. Госці раз'язджаліся па сваіх вёсках прасветленыя, радасныя ад таварыскасці і ўвагі, якія яны адчулі на сабе, і ўсе, як адзін, дзякавалі культработнікам-энтузіястам.

Так што імкненне да духоўнасці, культуры, мастацтва заўсёды жывуць у народзе. Яго трэба падтрымліваць і ўмацоўваць. Кожнай чалавечай душы заўсёды хочацца свята!

**Віктар ЖЫБРЫК,**
**Дзяржынскі раён**

№ 36 13 — 19 верасня 1997.



# "ПРЫРОДА БЫЛА МАІМ ПЕРШЫМ НАСТАЎНІКАМ..."



Калі б у мяне папыталіся, ці бачыў я ў жыцці цалкам шчаслівага чалавека, я б адказаў — так. Анатоль Бараноўскі менавіта такі чалавек. Жывапісец, педагог, асоба рэдкага абаяння і рэдкай сціпласці і ў той жа час неспакойнай творчай свядомасці і абвостранага пачуцця сучаснасці.

Яго любяць і тыя, хто ведае яго шмат гадоў, хто быў ягоным вучнем і сябрам, і тыя, каго жыццё звяло з мастаком толькі мімаходзь. Бо ў ім, у Анатолі Бараноўскім, здзіўляе творчая цэласнасць і высокая ступень сумленнасці, чыстаты і жыццялюбства, а, галоўнае, — дабрыня, якая заўсёды вылучала яго.

Жыццяпіс Анатоля можна было б пачаць з таго, як ён, ураджэнец Мінска, спасцігаў асновы прафесіяналізму ў Мінскай мастацкай вучэльні і тэатральна-мастацкім інстытуце. Як зусім маладым юнаком арганізаваў у Доме культуры МТЗ студыю выяўленчага мастацтва, з якой потым выйшлі У.Тоўсцік і С.Шафрановіч, А.Цыркуноў і А.Кузьміч... Як неўзабаве стаў педагогам у сваёй учарашняй "alma mater", прапрацаваўшы ў Акадэміі мастацтваў больш за 30 гадоў і зрабіўшыся тут прафесарам. Шмат што можна было б узгадаць і распавесці...

Дык хто ж ён, Анатоль Бараноўскі, як творца? Многія лічаць, што, безумоўна, рэаліст. Хаця сам мастак "пачуваецца" больш імпрэсіяністам: "У мяне рэальнасць заўсёды прапушчана праз уласнае бачанне, мая рэальнасць вельмі індывідуальная". Мяркую, што гэтае пытанне — хто ён? — рытарычнае. На маю думку, у блытаніне паняццяў і вызначэнняў мастакоўскіх стыляў і накірункаў мы іншы раз самі сябе ўціскалі ў "пракрустава ложа", наступалі "на горла ўласнай песні". Нібыта "імпрэсіяністы" не былі "рэалістамі" ў высокім разуменні гэтага слова. Нібыта "імпрэсіяністы" К.Манэ, Э.Дэга і К.Каровін — не рэалісты!

Анатоль Бараноўскі — проста выдатны мастак. Рамантык у маім цяперашнім разуменні. Рамантыка — гэта надзея, светлая і чыстая надзея. І калі я гляджу на пейзажы і нацюрморты жывапісца, я хачу жыць і кахаць. Хачу спадзявацца, што будзе святло ў вакне нашага не вельмі светлага жыцця. І будуць яшчэ новыя вёсны і зімы, новыя адкрыцці і адчуванні...

А.Бараноўскі. "Раніца". Палатно, алей.



Неабавязкова кудысьці клікаць. Можна проста спяваць, жыць, але — абавязкова — жыць "тут і цяпер": прырода прыгожая без мэты, яна "не наўмысна" прываблівае Бараноўскага сваім водарам, колерам, далікатнасцю формаў. Яна жыве і дорыць яму пачуццё прыгожага, усцешвае і натхняе яго, нічога не патрабуючы за гэта. Акрамя добрага да яе стаўлення...

Для Бараноўскага жыццё і творчасць — гэта адно і тое ж, увесь ягоны настрой і душэўны стан трывала адпавядаюць ягоным палотнам.

Я наведваў ягоную майстэрню, назіраў, як ён няўрымсліва працуе, пакутуе, перажывае, іншы раз проста сядзіць, нібыта нічога не робячы. Хаця ідзе праца думкі, не менш важная за сам працэс нанясення фарбаў на палатно.

Ці бывае стан спустошанасці? Так. Калі ты зрабіў усё, што меркаваў, задумваў, а ў цябе пасля гэтага засталіся палатно і фарбы, і ты не ведаеш, што рабіць далей. І тут да Бараноўскага прыходзіць нечаканы момант, калі ў ім ціха выплывае самае схаванае, самае падсвядомае, — у выглядзе своеасаблівай гульні. Гульні ў творчасць, калі ты раптам шукаеш, шукаеш і... знаходзіш сваю самую галоўную пластычную мелодыю.

"... Прырода была маім першым настаўнікам, — кажа мастак. — Я шырока адкрытымі вачыма глядзеў, як лета мяняецца на восень, як балота засыпае белы, нібы крупа, снег. Мяне перапаўняла пачуццё радасці і хвалявання. Раней я не ведаў, як абыходзіцца з гэтымі пачуццямі, а цяпер ведаю, што менавіта закаханасць і здзіўленне перад цудам і загадкай прыроды і ёсць мая сутнасць, мая мелодыя ў жывапісе..."

Шэсцьдзесят твораў заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі краіны Анатоля Бараноўскага цяпер з поспехам экспануюцца ў Магілёўскай абласной карціннай галерэі імя П.В.Масленікава. А пасля 21 верасня гэтую выставу змогуць паглядзець і жыхары горада Светлагорска, што на Гомельшчыне.

**Барыс КРЭПАК**

# ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ЦІ КВАТЭРНЫ КАНЦЭРТ

У першую чаргу, што ўяўляюць сабой месцы, дзе ладзяцца кватэрныя канцэрты?

Звычайна гэта невялікі пакой у кватэры якога-небудзь музыканта, які запрашае да сябе свайго калегу і, натуральна, слухачоў. Вядома, публіка тут нешматлікая: ад 15 да 45 чалавек.

Канцэрты ствараюцца, дарэчы, не дзеля рэкламы, да таго ж яны бясплатныя, проста тут выканаўца (ён звычайна заўсёды адзін) дзеліцца сваёй творчасцю і бывае вельмі ўдзячны, калі яго разумеюць. Больш яму нічога і не трэба.

У Мінску, наколькі мне вядома, раней такія акцыі не праводзіліся, пакуль два гады таму не з'явілася асацыяцыя "Дзеці падзямелля", якая і працягнула традыцыю, пакладзеную яшчэ знакамітым А.Макарэвічам з "Машыны часу" ў Піцеры.

Менавіта на яго кватэры пачыналі сваю дзейнасць вядомыя зараз В.Цой, В.Бутусаў, К.Кінчаў, Г.Сукачоў ды іншыя рок-музыканты. Пэўна, ён ацаніў ужо тады, што хлопцы, якія збіраліся ў яго, таленавітыя і з часам далёка пойдуць.

"Дзеці падзямелля" пачыналі свае канцэрты ў падземных пераходах, затым пайшлі выступленні на вялікіх пляцоўках і, нарэшце, фестываль "Далёкі шлях жыцця" ў 1996 годзе.

Тады ўсё і пачалося. Спачатку Зміцер N. з тых жа "Дзяцей..." разам з сябрам зрабілі невялікі канцэрт на яго ж кватэры. З таго часу, вось ужо на працягу двух гадоў, на кватэры Зміцера, што знаходзіцца на Інтэрнацыянальнай вуліцы, насупраць кінатэатра "Перамога", з поспехам выступаюць шмат рок-каманд як з Беларусі, так і з-за яе межаў, нават прыязджалі з Германіі.

У адзін з выхадных адыходзячага лета даў свой сольны акустычны канцэрт малады хлопец Джым, чыя дзейнасць пачыналася ў "Дзецях падзямелля". На гэтым канцэрце мне і давялося прысутнічаць.

У пакоі з прыглушаным святлом, душным ад цеснага гурта моладзі, дзе на сценах вісяць плакаты з выявамі рускіх рок-музыкантаў, Джым чытаў свае вершы і спяваў пад гітару паўтары гадзіны, зачароўваючы слухачоў тэкстамі і хрыплаватым барытонам.

Магчыма, што такія канцэрты прывабліваюць моладзь менавіта з-за таго, што на іх можна свабодна прыйсці, пазнаёміцца тут з новымі людзьмі, выпіць, у рэшце рэшт, і ніхто не будзе глядзець на цябе, як на белую варону.

Няхай песні тут часам грубыя, здараюцца і пошлыя, але яны не хаваюць таго, што турбуе маладога чалавека, тут ён чуе тое, што адпавядае яго духоўным пошукам.

**Майк АДАМ**

# ВІКТАР КАРАЛЁЎ ПРЭЗЕНТУЕ...

16 верасня ў мінскай галерэі "Мастацтва" адкрываецца выстава жывапісу Віктара Каралёва. У асноўным гэта будзе пейзаж.

Аўтар экспазіцыі — выхаванец Мінскай мастацкай вучэльні, вучань Л.Лапчынскага, А.Салькова, Т.Ігнаценкі. Ягоныя творы экспанаваліся на рэспубліканскіх і замежных выставах пачынаючы з 1980 года. Працуе ў жанрах лірычнага пейзажа, нацюрморта, партрэта. Дарэчы, ягоны партрэт "Мой сучаснік" трапіў у сетку Інтэрнета і цяпер экспануецца на міжнароднай выставе ў Ганконгу.

В.Каралёў. "Сонечны дзень". Палатно, алей.



Улюбёны матыў В.Каралёва — ваколіцы Сёмкава гарадка, жывапісны Сёмкаў парк і рэчка Чарнушка, якую мастак "спісаў" уздоўж і ўпоперак у розныя поры году, а таксама напаўзабытыя старэнькія вёсачкі Міншчыны...

Лірычныя пейзажы В.Каралёва немудрагелістыя паводле сюжэтаў, простыя паводле кампазіцыі і выразных сродкаў, але ўсе яны напоўненыя шчымлівым і светлым пачуццём сардэчнай любові да прыроды, асабліва да той прыроды, куды яшчэ не ўварваўся "тэхнічны прагрэс"...

**Б.К.**

# МІХАСЬ ФЁДАРАВІЧ



4 верасня 1997 года не стала аднаго з самых яскравых дзеячаў беларускага мастацтва, айчыннага мастацтвазнаўства, этнаграфіі, педагогікі Міхася Раманюка. Культура Беларусі XX ст. абавязкова будзе бачыцца наступнымі пакаленнямі па найбольш значных праявах і дасягненнях. У шэрагу лепшага са створанага за апошні час будзе самаадданае жыццё М.Раманюка, прафесара Беларускай акадэміі мастацтваў, кандыдата мастацтвазнаўства, загадчыка кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў.

Сябра, калега, добразычлівы дарадца пайшоў з жыцця на творчым уздыме, у час навуковай, мастакоўскай, выкладчыцкай актыўнасці. Альбом "Беларускае народнае адзенне", выдадзены яшчэ ў 1981 годзе, вядомы большасці даследчыкаў народнага мастацтва, этнографам, мастакам, якія чэрпалі з яго старонак не толькі веды, а і натхненне, далучаліся да нацыянальнага адраджэння россыпам графічных аркушаў, жывапісных палотнаў, праз якія прагляадаліся адшуканыя Раманюком па куточках Беларусі народныя строі і характары носьбітаў народнай культуры. У альбоме праявіліся вялікі мастацкі густ М.Раманюка, шырокі дыяпазон таленту фотамастака. Гэтае выданне распачало цэлую плынь ў сучасным беларускім выяўленчым мастацтве, якое здаўна шукала дачыненняў да глыбокага, патаемнага адвечнага сэнсу традыцый. "Беларускае народнае адзенне" было ўжо прыжыццёвым помнікам даследчыку, яго грамадзянскім подзвігам, яно з гонарам прэзентавала краіну ў свеце. Адраджэнскі характар асобы М.Раманюка яскрава адлюстраваны ў стварэнні вядомага для беларускай інтэлігенцыі часопіса "Мастацтва Беларусі" (цяпер "Мастацтва"). На пасадзе галоўнага рэдактра-заснавальніка выдання ён стварыў творчы калектыў, прадаставіў доўгачаканую магчымасць выказацца беларускім навукоўцам і мастакам аб набалелым яшчэ ў часы ідэалагічнай рэгламентаванасці.

Да апошняга часу М.Раманюк узначальваў кафедру гісторыі і тэорыі мастацтваў БелАМ. Ён адкрыў дарогу ў беларускае мастацтвазнаўства, мастацкую крытыку, этнаграфію значнай колькасці таленавітай моладзі, якая фармуе і адлюстроўвае сёння своеасаблівыя рысы нацыянальнага мастацтва. Багата творчай энергіі было ім аддадзена ў сценах Акадэміі на ўвядзенне дзённай формы навучання мастацтвазнаўцаў, прыцягненню да працы на кафедры самых уплывовых і перспектыўных навукоўцаў рэспублікі.

У 1996 годзе лепшыя рысы М.Раманюка знайшлі ўвасабленне ў яго выставе "Беларускі нацыянальны касцюм", якая разгарнулася ў залах Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. На выставе ён прадставіў сваю аўтарскую графіку па рэканструкцыі народнага касцюма, мастацкавыразныя дакументальныя фотаздымкі, прадэманстраваў удасканаленне класіфікацыі і раянавання беларускага народнага касцюма. Поспех графічных рэканструкцый быў замацаваны выданнем серыі паштовых мініяцюр, прысуджэннем прэміі "Чалавек года" 1996 г. за дасягненні ў мастацтве. Светлая памяць аб калегу, настаўніку і сябру захаваецца ў нашых сэрцах, будзе арыенцірам у працы.

**Калектыў кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў**

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці прафесара, загадчыка кафедры гісторыі і тэорыі мастацтваў Беларускай акадэміі мастацтваў РАМАНЮКА Міхаіла Фёдаравіча і выказвае спачуванне родным і блізкім памерлага.

Супрацоўнікі Беларускага інстытута праблем культуры з вялікім болем у сэрцы ўспрымаюць вестку аб заўчаснай смерці сапраўднага чалавека і грамадзяніна сваёй Бацькаўшчыны РАМАНЮКА Міхася Фёдаравіча і выказваюць шчырае спачуванне страціўшым яго родным і блізкім, усім людзям Беларусі.

Рэдакцыя часопіса "Мастацтва" глыбока смуткуе з прычыны смерці вядомага беларускага народазнаўцы і мастацтвазнаўцы, прафесара Беларускай акадэміі мастацтваў, першага галоўнага рэдактара часопіса "Мастацтва Беларусі" Міхася РАМАНЮКА і выказвае душэўнае спачуванне родным, блізкім і ўсім, хто карыстаўся дружбаю з гэтым чалавекам.

# У СКАРПІЁНА ХАРАКТАР ШАЛЁНЫ?

Згодна з гараскопам, замест пытальніка тут звычайна стаіць клічнік. Маўляў, "скарпіёну" абавязкова трэба каго-небудзь уджаліць: калі не вас, дык хаця б самога сябе. І я б у тое, можа, і паверыла, калі б не сустрэла Кацярыну Кафанаву. Не, яна не астролаг. Яна — музыкант. Але што такое музыка, як не гаворка з зоркамі ў касмічнай прасторы арганных гучанняў?

Так, Кацярына Кафанава — арганістка. А яшчэ — музыказнаўца: выпускніца Беларускага музычнага ліцэя і Маскоўскай кансерваторыі, цяпер — аспірантка.

— Я не ведаю, што для мяне пераважвае: навука ці выканальніцтва. Нават тэма дысертацыі звязана з абедзвюма сферамі: Англія XVI стагоддзя, творчасць Томаса Морлі. Гэта так захапляе!..

**— ...лепей за нейкае хобі?**

— Хобі ў мяне таксама "музыказнаўча-артыстычнае": весці канцэрты ў Малой зале Маскоўскай кансерваторыі. Сцэнічныя жанры мне наогул бліжэй, чым праца выкладчыка — цягне, відаць, да канцэртавання.

**— ...працягам якога лічыцца ўдзел у конкурсах?**

— Конкурс — гэта ў нечым працяг вучобы, магчымасць новых уражанняў.

**— ...самым яскравым з якіх для вас стаўся дыплом X Міжнароднага конкурсу імя Баха ў Лейпцыгу. Ці не так?**

— Усё ж галоўнае не гэта. У Лейпцыгу я неўзабаве адчула, як па-рознаму трактуюць арганныя творы музыканты Заходняй Еўропы: ці празмерна строга, нават засушана, ці надта штучна, ненатуральна. Для мяне ж ісціна — недзе пасярэдзіне між дакладным агучваннем кампазітарскага тэксту і маім уласным самавыяўленнем. Ну, а самае ашаламляльнае ўражанне — ад царквы Святога Фамы, дзе калісь працаваў сам Бах, а цяпер праводзяцца конкурсы ў яго гонар. Арган там знаходзіцца вельмі высока, у прыцемках, афарбаваных чараўніцтвам вітражоў. На вінтавой лесвіцы ахоплівае жах, але ён нішто ў параўнанні з той асалодай, якую атрымліваеш ад кожнага сыгранага гуку. Акустыка там надзвычайная: водгукі ідуць каля чатырох секунд, ствараецца цэлы космас гучанняў...

**— ...такі ўзнёсла-паэтычны, рамантычны. Мне наогул падалося, што музыка рамантыкаў Вам бліжэй.**

— Неабавязкова! Проста музыка рамантыкаў дазваляе выказаць свой эмацыянальны стан, старадаўняя ж патрабуе найвялікшай духоўнай канцэнтрацыі. Таму да кожнай з іх набліжаешся ў розныя моманты жыцця. Між іншым, яшчэ з дзяцінства сярод маіх любімых твораў — і опера Барадзіна "Князь Ігар".

**— ?..**

— Калі мне было чатыры гады, гэтым спектаклем дырыжыравала мая маці — Зоя Баляславаўна Шаціла. З гэтай прычыны сярод музычных прыхільнасцей — і "Кармэн", і "Яўгеній Анегін".

**— ...і ўзнікае жаданне імі прадырыжыраваць? Да таго ж у перакладзе для аркестра рускіх народных інструментаў, якім кіруе ў Беларускай акадэміі музыкі ваш бацька — Кафанаў Сяргей Іванавіч.**

— Трэці дырыжор у сям'і было б занадта. Таму "дырыжырую" выключна арганам, дзякуючы выкладчыкам Наталлі Іванаўне Выграненка, якая вяла факультатыў у ліцэі, і Аляксею Аляксандравічу Паршыну — дацэнту Маскоўскай кансерваторыі, без якога я ніколі б не адчула сябе выканаўцай.

**— ...і дзякуючы майстар-класу ў Швейцарыі, дзе вы пабывалі летам, акурат пасля вашага канцэрта ў Мінску.**

— Гэта проста нейкі цуд: займацца на шыкоўным інструменце, які мне і не сніўся, ды яшчэ пад кіраўніцтвам Жана Гію — аднаго з вядучых арганістаў свету. І, галоўнае, бачыць, наколькі высокая зараз у Еўропе арганная культура — амаль што нейкі культ арганных канцэртаў: у касцёлах яны адбываюцца кожны тыдзень, ужо як традыцыя. Гэтую б традыцыю — ды нам у Беларусь!

**— ...каб вы маглі часцей выступаць у Мінску?**

— І гэта таксама. Мне б наогул хацелася, каб у мяне была магчымасць весці нармальнае канцэртнае жыццё, каб мяне слухалі. А для гэтага трэба іграць так, каб слухачы забываліся пра ўсё ў чароўным космасе арганных гукаў.

**З арганісткай гутарыла Надзея БУНЦЭВІЧ**

*ПІНСКУ — 900 ГАДОЎ*

# "ТУТ ПРЫПЯЦЬ ХВАЛІ ГОНІЦЬ У ДАЛЯЧЫНІ..."



У гэтыя вераснёўскія дні Пінск — старажытная сталіца Палесся — святкуе свой 900-гадовы юбілей. Але не толькі гэты паважаны ўзрост (старэйшы за Маскву!) прымушае ўважліва прыглядзецца да мастацкіх і гістарычных набыткаў аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў Беларусі. Пінск здаўна, яшчэ з часоў Турава-Пінскага княства, служыў развіццю і ўмацаванню роду чалавечага, даваў прытулак славянам.



Уздоўж Прыпяці на ўсход праз Пінск наладжваліся сувязі з Падняпроўем, Прычарнамор'ем, Візантыяй. На захад і паўночны захад ішлі шляхі па Піне і Ясельдзе. Блізкасць да воднага шляху "з варагаў у грэкі" надавала Пінску аблічча гандлёвага горада, дзе рана атрымалі развіццё не толькі рамёствы, але і старажытнае мастацтва. Абразок з каменю "Хрыстос-Эмануіл" XII стагоддзя, створаны разьбяром па дрэве папом Ананіем, творы дойлідаў XIV — XV стагоддзяў — усе яны даносяць да нас водгукі жыцця продкаў. Праз баявыя подзвігі і крывавыя бітвы, шматпакутнае жыццё даведваемся мы пра іх. Подых сівой даўніны адчуваеш і цяпер, гледзячы на купалы францысканскага касцёла і капліцы, на мураваныя, пакрытыя дахоўкай і бляхай дамкі.

Душа горада — гэта людзі, і тыя, хто жыве, працуе цяпер, і тыя, хто жыў тут у далёкія і не вельмі далёкія часы. З Пінскам шчыльна звязаныя лёсы і імёны Адама Нарушэвіча, Франца Савіча, Якуба Коласа, Яўгеніі Янішчыц, тут праславіліся Канстанцін Астрожскі, Рамуальд Траўгут, Фёдар Казубоўскі, Васіль Корж, Ціхан Калінін. Тут пачыналі жыццёвы шлях выдатныя навукоўцы, даследчыкі, архітэктары, першапраходцы. Каля 60 з іх з'яўляюцца дактарамі навук. Свае радкі прысвячалі гораду закаханыя ў яго Фёдар Глінка, Мікалай Ляскоў, Дзмітрый Булгакаў, Марыя Канапніцкая, Уладзімір Караткевіч...

Страшэнныя страты панёс горад у гады Вялікай Айчыннай вайны. Гітлераўцамі было расстраляна 38 342 чалавекі. Гэтыя гады авеяныя подзвігам партызан, маракоў Дняпроўскай вайсковай флатыліі, салдат 28-й і 61-й армій.

Сёння горад, беражліва захоўваючы гісторыю, жыве сучаснасцю, смела глядзіць у будучыню.

**Наталля ШАСТАКОВА**

**На здымках: старажытны і вечна малады Пінск.**

**Фота М.ЛІНКЕВІЧА**




# МАГІЛЁЎ СУСТРАКАЕ ЦЫМБАЛІСТАЎ СВЕТУ

Беларускія цымбалы. Каму не вядомы гэты здзіўляючы, самабытны народны музычны інструмент? Ягоныя карані сягаюць далёка ў глыбіню гісторыі існавання музычных інструментаў. Колькі шчаслівых і радасных імгненняў дарыў ён людзям сваім серабрыстым гучаннем не толькі на нашай роднай Беларусі, але і ў многіх кутках планеты. Ва ўмелых руках таленавітых выканаўцаў інструмент заўсёды здзіўляе слухача сваімі неабмежаванымі мастацкімі магчымасцямі. Цымбалы аднолькава выразныя і зразумелыя слухачу як у музыцы фальклорнай, так і ў творах майстроў-класікаў, а таксама сучасных айчынных і замежных кампазітараў.

Але цымбалы жывуць не толькі на Беларусі. Нарадзіўшыся ў далёкай Персіі, інструмент паступова распаўсюдзіўся па ўсім свеце ў розных мадыфікацыях. Так, у Карэі, В'етнаме, Кітаі, на Тайване, у Калмыкіі іграюць на цымбалах пад назвай "янг-чынь"; у Індыі, Грэцыі, Іране, Сірыі — "сан-тур"; ва Узбекістане — "чанг"; у Англіі, Шатландыі, Амерыцы, Канадзе — "далсіма", у Германіі — "хэкбрэт"; славянскія ж народы іграюць на вялікіх венгерскіх цымбалах. Такім чынам, практычна ў кожнай краіне і на ўсіх кантынентах існуюць цымбалы і цымбалападобныя інструменты. І кожны інструмент нясе ў сабе спецыфічныя рысы таго рэгіёна, дзе ён жыве. Гэта здзіўляючая разнастайнасць канструкцый і гукавых якасцяў, патрэба ў стасунках і ўзаемаўзбагачэнні выканаўцаў, педагогаў і майстроў выклікалі неабходнасць наладжвання кантактаў і аб'яднання музыкантаў розных краін.

Важным крокам на шляху да такога яднання з'явіўся І Сусветны кангрэс цымбалістаў, што адбыўся ў 1991 годзе ў невялікім венгерскім гарадку недалёка ад Будапешта. Тут была арганізавана Сусветная Асацыяцыя цымбалістаў (CWA). Прэзідэнтам Асацыяцыі была абрана вядомая венгерская цымбалістка-віртуоз Вікторыя Херэнчар, сакратаром — Іштван Хорват. У прэзідыум Асацыяцыі ўвайшлі прадстаўнікі Германіі, Галандыі, Кітая, Чэхіі і Ірана. Дзякуючы новай арганізацыі інфармацыя пра існаванне Асацыяцыі цымбалістаў дайшла і да Беларусі. Першым, хто даведаўся пра гэта, быў Саюз музычных дзеячаў Беларусі, у прыватнасці, намеснік старшыні Саюза Т.Курыла, які хутка наладзіў кантакт з Асацыяцыяй. У выніку перапіскі высветлілася, што рыхтуецца новы, II Сусветны кангрэс у чэшскім горадзе Брно ў 1993 годзе. Мне пашчасціла быць першым прадстаўніком нашай краіны на гэтым фэсце. Я вельмі рады, што маё выступленне выклікала непадробнае здзіўленне і вялікую цікавасць да беларускага цымбальнага мастацтва, выканальніцкай манеры, рэпертуару і да т.п. Дарэчы, кангрэс у Брно быў ужо больш прадстаўнічым і паводле складу ўдзельнікаў, больш цікавым і разнастайным. Пасля кангрэса ў Чэхіі ў нас з'явілася думка аб правядзенні аднаго з наступных кангрэсаў на Беларусі. Ідэя была падтрымана Міністэрствам культуры.

З мэтай азнаямлення з беларускай цымбальнай школай, знаёмства з нашым кіраўніцтвам у Мінск прыехала прэзідэнт Асацыяцыі пані Херэнчар. У праграме яе знаходжання ў нашай краіне былі сольныя канцэрты ў Мінску і Магілёве, візіт у Міністэрства культуры Беларусі, сустрэчы і гутаркі са студэнтамі, педагогамі і прадстаўнікамі музычнай грамадскасці, знаёмства з нашымі выканаўцамі і калектывамі, прыём у члены Асацыяцыі больш за 20 беларускіх цымбалістаў. Напрыканцы візіту пані Херэнчар з задавальненнем зазначыла, што Беларусь, бадай, адзіная краіна, дзе акрамя салістаў працуюць яшчэ і ансамблі, і аркестры цымбалістаў. Яна адзначыла таксама моцную выканальніцкую школу, яе базу. Магіляўчане на чале з дырэктарам філармоніі, кампазітарам Браілоўскім выказалі гарачае жаданне правесці кангрэс у Магілёве, што было падтрымана абласным упраўленнем культуры.

Такім чынам, кантакты былі завязаны. З'явіліся запрашэнні нашых выканаўцаў у Венгрыю, Чэхію, Германію. У 1995 годзе ў Брацiславе адбыўся III кангрэс Асацыяцыі, куды прыехала ўжо цэлая група нашых цымбалістаў, у тым ліку ансамбль цымбалістаў Беларускай акадэміі музыкі і фальклорная група "Ліцвіны". Поспех быў вялікі. На заключным гала-канцэрце выступленням беларускіх выканаўцаў спадарожнічалі несціхаючыя апладысменты. Пытанне было вырашана: наступны, IV кангрэс Асацыяцыі павінен адбыцца на Беларусі, у Магілёве. Быў створаны арганізацыйны камітэт пад старшынствам спадара У.Рылаткі, які пачаў падрыхтоўку да кангрэса. Падчас кангрэса мяркуецца правесці Дзень Беларусі — паказ дасягненняў беларускага цымбальнага мастацтва, тэарэтычныя семінары, спавешчанні, дыскусіі, а таксама канцэрты нацыянальных дэлегацый, заключны гала-канцэрт і выніковае пасяджэнне Асацыяцыі.

І Магілёў напружана рыхтуецца, тым больш што на ягоныя плечы кладзецца асноўны цяжар клопатаў па прыёме замежных музыкантаў. А іх, не лічачы прадстаўнікоў Беларусі і краін СНД, будзе больш за 50 чалавек з пятнаццаці краін. А часу засталося не так ужо і шмат — кангрэс будзе праходзіць сёлета з 1 па 5 кастрычніка. Праблем хапае, але будзем спадзявацца, што замежныя госці будуць пачувацца на Беларусі добра і камфортна.

Дарэчы, сімвалічна, што кангрэс адбудзецца ў год 90-годдзя з дня нараджэння нашага слыннага музыканта-цымбаліста І.Жыновіча.

**Яўген ГЛАДКОЎ,**
**сябра праўлення Сусветнай Асацыяцыі цымбалістаў.**

# К КУЛЬТУРА



Паміж 27 ліпеня і 24 жніўня быў сёлета спякотны месяц. Паміж дзвюма незалежнасцямі — беларускай і ўкраінскай — Міжнародная школа гуманітарных навук і Варшаўскі універсітэт правялі дзве сесіі — у Браславе і ў Львове. Два памежныя старадаўнія гарады носяць імёны ўсходнеславянскіх князёў. Векавечна яны пераходзілі з рук у рукі розных захопнікаў. Уважлівым вокам можна адзначыць і іншыя субежнасці і разбежнасці іх лёсаў.

### 1. ТОЛЬКІ Ў ЛЬВОВЕ

Львоў, як да прыкладу, Адэса, — маленькая айчына для яго жыхароў. Апошнія з адчайным сумам заўважаюць, што ў сучаснай мітусні і праблемах горад быццам бы губляе свой асаблівы ўнутраны патрыятызм. Прычыны гэтага "выдыхання" ніхто не можа сфармуляваць адназначна.

Рэч нават не ў тым, што з часовым заняпадам паблякнуў дабрабыт і Львоў стаўся больш правінцыйным. Быць правінцыяй, увогуле, Львову не прывыкаць: з канца XVIII стагоддзя — ускраіна Аўстра-Венгерскай імперыі, у розныя перыяды да 1939 года — не самы галоўны горад Польшчы, у савецкі час — дзівакаваты абласны цэнтар з задранымі дагары, як нос ганарлівага хлопчыка, вежамі несавецкіх помнікаў архітэктуры.

Не, усё ж Львоў застаецца Львовам. Ёсць у ім і шык, і прыцягальная сіла. Але нават я, заезджая персона, адчуваю сёння нейкую львоўскую несабранасць. Я пытаюся ў старых і маладых львавян: "Што з вашым горадам? Чым ён жыве і дыхае?" Маё дэнацыяналізаванае беларускае сіроцтва шукае адказу, як быццам са львоўскім патрыятычным духам я прыдбаю свой уласны, беларускі.

Адказаць на мае пытанні спрабуюць людзі з прыгожымі імёнамі: Саломія, Ігор, Уляна, Маркіян, Галына, Олена, Левко. Гэта мастацтвазнаўцы і студэнты, львавяне і людзі прышлыя. Але перадусім я звяртаюся да захавальнікаў вулічнай памяці — прынцыповых і адмыслова інтэлігентных, галіцкіх бабулек і дзядулек. Яны гурткамі, нібыта гарадскія галубы, займаюць прастору ўтульных львоўскіх сквераў і "балакаюць": "Ну што цяпер, хіба гэта Львоў? Цяпер ёсць толькі адно свята горада — у кастрычніку. А раней, здаецца, кожны дзень быў святам. Да 1939 года на двух чалавек прыходзілася адна кавярня. Вы пілі каву па-львоўску? Яшчэ дзенідзе ў Львове можна выпіць добрую каву. Толькі, дарэчы, не старайцеся шукаць самую прыгожую кавярню. Смак кавы не залежыць ад інтэр'ера. І ўлічыце, піць каву ў Львове трэба сваім парадкам. Не проста пайсці і выпіць. Трэба заказаць, пасядзець гадзінкі дзве не за адной філіжанкаю, апошнюю абавязкова не дапіць і сысці. Толькі кава ў Львове вырашае ўсе пытанні. А вось з паненкамі раней пытанні вырашаліся ля фантанаў..."

Цяпер многія фантаны не працуюць — разам з іх вадою выпарылася атмасфера флірту па-львоўску. А раней — вось уявіце сабе: Ён чакае Яе каля львоўскага фантана. Ён п'е каву па-львоўску і чытае львоўскія навіны пад шоргат львоўскай газетнай паперы, пра якасць якой было чутна аж у Александрыі. Ён папыхвае цыгарэтай з львоўскім "цюцюнам". Яна ў гэты час ідзе альбо едзе да Яго на львоўскім трамваі ў львоўскім капялюшыку. Ах, што за капялюшыкі рабілі ў Львове! Толькі ў Львове. Цану кожнага наганялі да кошту каня. Адным словам, панна пад'язджала амаль у экіпажы. І абавязкова з кніжкай падмышкай з львоўскай кнігадрукарні. А Ён Яе за адну руку бярэ, каб пацалаваць пальцы, а ў другую ўкладае лепшую ў свеце львоўскую шакаладку. А Яна замест захопленага "О!" выводзіць вуснаЧкамі "Гу!" (гэтак кажуць толькі ў Львове) і "шамаціць" і "пашапётвае" львоўскім гаваркам. А Ён даўно падрыхтаваў апошнія львоўскія навіны:"Вы чулі? Адна старэйшая пані напісала скаргу рэктару універсітэта, што ў яе сад залезлі акадэмікі і абабралі яблыкі..." "Гу!" — зноў выводзіць паненка сімпатычны львоўскі выклічнік. Яна ж ведала, што з XVII стагоддзя акадэмікамі ў Львове называлі студэнтаў аднаго са старэйшых універсітэтаў Еўропы. Студэнцкія баламуцтвы "акадэмікаў" зафіксаваныя і захоўваюцца ў львоўскіх архівах. Але чуткі віравалі не толькі пра іх. "Праславіліся" вучні езуіцкіх школ, якіх злавілі на блюзнерстве ў грамадскіх лазнях, за што было загадана гэтым балбатліўцам спяваць падчас купання псалмы ўслых. Толькі ў Львове лазні былі пеўчыя, як цэрквы падчас службы.

Легендай старога Львова стаў грэк па імені Кампіян — злодзей, якога не злавілі 40 разоў. Упісаны ў памяць Львова нейкі зух Алімбек, які засадзіў сваімі сваякамі ўсе месцы на лавах гарадской рады.

Аднаго толькі чалавека не спрабавалі ў Львове запомніць, не ведалі ні адраса яго, ні імя — гарадскога ката. Вядома толькі, што добрых катаў рыхтавалі якраз непадалёк ад Львова. Тут іспыты былі пацяжэй, чым ва універсітэцкіх "акадэмікаў". І ў білеце можна было выцягнуць "рассячэнне мухі напалам з аднаго замаху сякерай".

Гісторыя блукае па вулках Львова. Львавяне, львавякі, львавяцы часамі могуць кружляць па адным гарадскім квартале і расказваць як было "толькі ў Львове". Яны шкадуюць, што ўсё ўжо трошкі не гэтак. І старыя людзі адыходзяць, і старажытнасць разбураецца. На Рынку з багіні Дзіяны "якісь бацяршкоднік" сцягнуў шыльдачку з надпісам. Чорную камяніцу пафарбавалі ў нейкі шэры колер. У дом Бандзінэлі, на рагу, дзе была першая львоўская пошта, не паспелі зазірнуць рэстаўратары, як абваліліся скляпенні. 200 будынкаў знаходзяцца цяпер у аварыйным стане. Ну і што, калі гэта будынкі XV-XVI стагоддзяў? За аўстрыйскім і за польскім часам яны ж стаялі...

### 2.ДУБ ФРАНЦА ІОСІФА

Ні ў якім разе не падумайце, што львавян непакоіць туга па Яну Сабескаму альбо па Францу-Іосіфу. Гораду, дзе была з савецкага калапса рэаніміравана нацыянальная ідэя, сумаваць па сваіх гістарычных захопніках — гэта ўжо празмерна! Але праблісне зрэдчас настальгія па аўстрыйскім парадку і па польскай рамантыцы быту.



## ЧАС ПІЦЬ КРЫНІЧНУЮ ВАДУ

Народ, які славяне назвалі "немцамі", з'явіўся ў Львове з моманту нараджэння горада — у канцы XIII стагоддзя. Даніла Галіцкі, што падараваў на вяселле старэйшаму сыну Льву невялікі маёнтак, сам даваў немцам права на пасяленне ў Львове. Немцы прынеслі ў гэты край магдэбургію, упарадкавалі жыццё горада, назаўсёды ўкаранілі ў яго еўрапейскую цывілізацыю.

У 1772 годзе, пасля першага падзелу аслабелай у войнах Рэчы Паспалітай, горад атрымалі аўстрыякі.

Да гэтага на зямлі, дзе пераважна пражывала ўкраінскае насельніцтва, польскія гаспадары сфармавалі ў гарадах і загарадных замках астраўкі польскага свету і культуры. Менавіта ў XVI-XVII стст., яшчэ да Аўстрыі, Львоў сфармаваў сваё польскае аблічча. Палякі ўпрыгожылі жыццё горада польскім шармам, але не ўсялілі польскі дух. А з праявамі народнага ўкраінскага духу ім не раз даводзілася змагацца.

У самім Львове ўкраінцы былі ў меншасці. Са старой сівізны гэты горад быў "горадам 100 народаў". Тут склаліся моцныя дыяспары армян, грэкаў, малдаван, сербаў, балгар, чэхаў. Цяпер самая вялікая дыяспара — польская. З XVIII стагоддзя і да апошняй вайны значную частку жыхароў Львова складалі габраі. Армяне кавалі зброю для князёў. З суседняй Маджарыі сам Леў выбраў сабе нявесту — венгерскую каралеўну Канстанцыю. Грэкі прывозілі ў Львоў лімоны. А габраі называлі Львоў сваёй другой радзімай.

Да цяперашняга часу захаваліся ў Львове вуліцы Сербская, Кітайская, Старагабрайская, Руская. Рускай называлі вулачку, дзе дазвалялі будаваць дамы ўкраінскаму насельніцтву. Яна і была самай вузенькай і маланаселенай. Каб пазбегнуць народных хваляванняў, украінскіх дамоў павінна было быць у горадзе не больш за 18, і новая украінская сям'я магла пасяліцца ў Львове толькі пасля выміранне дзвюх сем'яў з 18.

Пры каралеўскай Польшчы ўкраінцу з цяжкасцю ўдавалася падняцца "ад халопа да попа". Замкнутая ўкраінская свядомасць не спяшалася растварыцца ў культуры заваёўнікаў.

Новы каланізатар — Аўстрыя — заняла нечакана мудрую пазіцыю. Пацэзараўску яна падзяліла правы паміж нацыянальнымі групамі і дала ўкраінцам паўнамоцтвы, роўныя з палякамі. Украінцы атрымлівалі зямлю і адукацыю. А імператара Франца Іосіфа ў знак павагі называлі не "кесарам", а менавіта "цэзарам", у гонар Юлія Цэзара, які першы сфармуляваў прынцып "падзяляй і ўладар".

У Львове пасяліўся дух свабоднай Украіны. З таго моманту ніхто не змог утаймаваць вольны вецер Галіцыі. Тут не змагаліся з рускімі альбо палякамі. Тут стаялі за Украіну. Любая галіцкая бабулька прашапялявіць вам сёння, паўтараючы словы сваёй прабабкі:"... але ўсё ж такі тут Украіна". Заходнеўкраінскі дзед, які не супраць паесці сала са смачным украінскім хлебам, заўпарціцца і скажа:"Ды я щурів істы буду, а назад ні хочу". А калі з 1989 года ўвесь горад збіраўся на "стометрівцы" — пляцоўцы перад Оперным тэатрам, здавалася, што з агульнага гуду можна разабраць толькі адну фразу:"Няхай жабы падаюць з неба — Галіцыя будзе стаяць".

Львавян дражняць "заходнікамі", а яшчэ больш жорстка —"бэндэры". Ім у гэтай мянушцы не падабаецца толькі тое, што нацыянальнага ўкраінскага героя звалі Стэпан Бандэра, а "ўсходнікі" выводзяць этымалогію гэтай мянушкі ледзь не ад Астапа Бэндара.

Дык што ж здарылася са львоўскім патрыятызмам? Сёння маленькую львоўскую айчыну ўпрыгожваюць плакаты "Радзіму не выбіраюць, выбіраюць яе незалежнасць". Раптам стала цалкам відавочна, што Львоў не польскі, не аўстрыйскі, не савецкі, а ўкраінскі. Незалежны Львоў фармуе свой украінскі характар. Асцярожна, пераборліва. Сюды не павінна вярнуцца ні першае, ні другое, ні трэцяе. Украінскі дух горада павінен спадабацца тым, чыя памяць лунае ў мінулым. Украінскія вуліцы не павінны быць самымі вузкімі ў горадзе. І кава па-львоўскі не павінна ўзгадвацца толькі 1939 годам.

Магчыма, самай украінскай прыкметай сённяшняга Львова можна назваць асеннія горы кавуноў, якія раскупаюць адразу з асфальта. Гэтая карціна зусім не псуе горад, які аднаўляецца з дапамогай ЮНЕСКО ў абліччы XIX стагоддзя. Не псуюць яго польскія звароты "пан" і "пані" і ўзніклыя зноў аўтаматы з савецкай газіроўкай па 5 капеек. Дарэчы, шыльдачка з багіні Дзіяны ўзятая на рэстаўрацыю, і неўзабаве запрацуюць львоўскія фантаны.

Вы стаміліся хадзіць па старым і новым Львове? Выязджайце за горад у любым накірунку. Спагадлівыя галічане вам ледзь не ў кожнай вёсцы пакажуць дуб, пад якім адпачываў імператар Франц Іосіф.

### 3. ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ

Своеасаблівы львоўскі патрыятызм заўсёды сілкаваў сябе мудрасцю жыхароў Львова.

Тыя, хто са ста прапанаваных гораду нацый выбралі прынамсі дзве:- "львавяне" і "ўкраінцы",— сваё жыццёвае крэда маглі б сфармуляваць адным радком:"Заўсёды так не будзе". Кажуць, гэта выгравіраваў у сябе на дзвярах адзін львоўскі габрай пры выхадзе з дому і з адваротнага боку.

Пагадзіцеся, колькі аптымізму, творчасці і мужнасці ўтрымоўвае ў сабе гэтая фраза.

Ужо ў XIII стагоддзі, калі са спаленай вёскі адбудоўвалі новы горад — будучы гонар еўрапейскае культуры,— над Львовам лунала боскае "заўсёды так не будзе". Пад гэтым лозунгам у Львове змяняліся ўлады і каланізатары. З гэтымі думкамі трывалі сваю шматдзённую кару прыкутыя да львоўскага слупа ганьбы злодзеі і гандляры-махляры. І тады, і пасля, і заўсёды, і "во веки веков" знаходзіліся жыхары Львова, якія захоўвалі гэты дэвіз у падсвядомасці. А ў цяперашні час для шмат каго з нас гэтыя словы маглі б стаць калыханкай альбо баявым клічам.

Вядома, што ў Львове, на вуліцы Каперніка, акурат насупраць сучаснага Палаца шлюбаў жыў-пажываў сусветна знакаміты доктар Захэр-Мазох. Я цяпер разумею, што экстатычнае цярпенне мазахістаў балансуе ўсяго толькі на адной львоўскай фразе —"заўсёды так не будзе". Лепей Мазох дажыў бы да нашых дзён. Тады ён абавязкова захапіўся б апісаннем нашых вычварстваў над культурнымі каштоўнасцямі.

Калі ў прыгарадах Львова вы зблытаецеся ў падліку дубоў Францa Іосіфа, то пачынайце лічыць старажытныя замкі. Лічыце пакуль па руінах. Калі вы — беларус, то хіба вам трэба вучыцца лічыць замкі па рассыпаных сценах? Калі вы "заходнік" альбо прыбалт — дамалюйце да львоўскіх замкаў бляшаныя дахі альбо дахоўку, бо рана ці позна ўсё гэта адновяць. Вы ж не забылі жыццёвае крэда львавян?

Якое прыемнае супадзенне: у Падгорскім замку, непадалёк ад Львова, размясцілі санаторый для хворых туберкулёзам. Прыкладна таксама, як у нас у Нясвіжы. Колькі вокнаў — столькі палат. Уваход у працэдурную — праз мармуровыя "вушакі". У танцавальнай зале — ванныя і прыбіральні. Некалькі гадоў таму дзяржава аддала занядбалыя харомы ўкраінскім энтузіястам-гісторыкам. Праўда, без старажытнай мэблі і посуду. Але таксама, як у XVI стагоддзі — без электрычнасці. Нарэшце былі разбітыя сцены шпітальных клецяў, і пасля стольких гадоў зноў разбегліся па калідорах чароўныя мармуровыя анфілады. Фамільныя капліцы і касцёлы спатрэбілася дэзінфіцыраваць — тут месціліся хворыя з адкрытай формай туберкулёзу: своеасаблівае спалучэнне савецкага блюзнерства з верай у боскую дапамогу.

У Золачаўскім замку XVII стагоддзя, папазней, натуральна, зрабілі турму, аджа, ён будаваўся як абаронная крэпасць, з тоўстымі мурамі. Архітэктурны ансамбль цяпер на рэстаўрацыі. Аднаўляецца літаральна па драбніцах. Але блукаць па ім будуць духі рознага міну-



# ЯНО ВЕРНЕЦЦА

Новы, яшчэ не зусім закончаны помнік Фёдару Дастаеўскаму, які стаіць паміж школай і Свята-Троіцкай царквой у вёсцы Дастоева, як бы сімвалізаваў сабой мэту навукова-творчай экспедыцыі "Дарога да святыняў", у якой узялі ўдзел навукоўцы і пісьменнікі, артысты і духоўныя асобы: з'яднаць агульныя намаганні дзеля святла ў душах чалавечых. Геніяльны пісьменнік, продкі якога паходзяць з гэтай палескай вёскі, быў перадусім, глыбока веруючым чалавекам, і помніцца, як у 70-я гады, у тады яшчэ Ленінградскім музеі ягонага імя пра гэта хаця і паўшэптам, але настойліва казалі падчас экскурсій супрацоўнікі музея.

Нягледзячы на тое што сёлетняе свята беларускага пісьменства і друку праходзіла ў Нясвіжы, менавіта Дастоева здалося мне своеасаблівай вяршыняй усяго, што адбывалася на Беларусі ў гэтыя дні, бо якраз вернутая памяць аб нашых каранях, аб нашых геніяльных продках, аб храмах, што будаваліся і ўзводзіліся не толькі дзякуючы грошам, але і душэўнай патрэбе ў іх, — яна, гэтая памяць, як бы ўвасаблялася ў радасці, з якою сустракалі і Дабрадатны Агонь Гасподні, лампаду з якім везлі ўдзельнікі экспедыцыі на чале з айцом Сергіем Кузьмянковым, Нінай Загорскай і Сцяпанам Лаўшуком, і творчых асоб, якія сустракаліся са сваімі чытачамі. Але, можа, найбольш уважлівымі для апошніх былі выступленні ў храмах.

"Я першы раз у сваім жыцці атрымаў слова для выступлення ў царкве, — сказаў заслужаны дзеяч культуры Валянцін Ермаловіч, — і менавіта радкі Якуба Коласа здаліся мне найбольш прыдатнымі для таго, каб паўтарыць іх там. Прызнаюся —ніколі не гучалі яны для мяне з такой глыбінёй, як на гэты раз."

Сапраўды, гэта было незабыўна — бачыць, напрыклад, адухоўлены твар народнай артысткі Марыі Захарэвіч, асветлены мноствам трапяткіх свечак, і слухаць яе пранікнёныя словы аб набходнасці ўсім нам пазбыцца варожасці і нянавісці, хлусні і нявер'я. Яна чытала вершы — і думалася аб тым, што наўрад ці хто мог прадбачыць такі вось прыход беларускага слова да вернікаў — але тое, як гэта адбывалася, не магло не кранаць да глыбіні душы.

Думаецца, і самім удзельнікам экспедыцыі многае далі гэтыя пяць дзён дарогі, на якой яны сустрэлі і простых людзей, якія ў цяжкія часы бязвер'я ратавалі храмы ад разбурэння, і святароў, якія шчыра служаць справе духоўнасці. "У каго няма мінулага, у таго няма будучага", — сказаў на сустрэчы ў Нясвіжы айцец Дзмітрый, падкрэсліўшы, што беларускасць — гэта спадчына, якой няма чаго саромецца. Ён, украінец, родзіч Чарняхоўскага, вызваляў Беларусь, вывозіў снарады з-пад Дома ўрада і атрымаў званне Героя Савецкага Саюза за сваю храбрасць. А пасля былі і іншыя ордэны — Сергія Раданежскага, Святога Уладзіміра...

"Абавязкова напішыце пра нашага айца Мікалая!" — настойвалі прыхаджане Крыжаўзвіжанскай царквы ў вёсцы Святая Воля, што недалёка ад Целяханаў, калі пабачылі ў нашых руках нататнікі.

Сапраўды, гэты малады яшчэ святар, якому нядаўна споўнілася 33 гады, зрабіў амаль немагчымае для таго, каб у вёсцы ўзнік новы храм: ён не толькі збіраў ахвяраванні, але і сам вырошчваў бульбу (часам па 30 — 40 тон!), вазіў прадаваць яе ў Расію, — словам, выконваў нават зусім нязвыклую для святара працу — але стаіць у вёсцы Святая Воля царква! І нясуць у яе абразы, вышытыя ручнікі, робяць сваю працу разьбяры...

Пахне свежай тынкоўкай, дрэвам у многіх цэрквах Бярозаўскага, Іванаўскага, Пінскага раёнаў, дзе пралягаў шлях экспедыцыі. І бачыш, як непаўторны палескі каларыт накладваецца на твар Божай Маці і Немаўляці, якія глядзяць з новых абразоў, як паўтараюцца традыцыі цудоўнай беларускай разьбы ў новых іканастасах, вяршыняй якой лічыцца іканастас у Каломенскім пад Масквой, які рабілі беларускія разьбяры. А самаробныя дарожкі ў царкве Аляксандра Неўскага ў вёсцы Лышча, здаецца, можна павесіць на сцяну, і шкада ісці па іх: быццам ідзеш па крылах каляровых птушак...

Дарэчы, храм гэты быў разбураны ў 60-я гады. Казалі, што бабулькам, якія яго ахоўвалі, абяцалі, што пакінуць царкву ў спакоі. І тыя разышліся — каб назаўтра ўбачыць разбурэнне і гвалт над самым святым у чалавечай душы...

Пчаляр Павел Феафілавіч Шаламіцкі, які ўзначаліў аднаўленне, быў тут і за прараба, і за рабочага: вагонка прыгнаная дошка да дошкі, і ад яе ўвесь храм здаецца залацістым. А можа, такое адчуванне ўзнікае ад твараў палескіх жанчын, чые рукі не згінаюцца ад цяжкай працы, твары абветраныя сонцам, але вочы свецяцца радасцю і замілаваннем?

З гэтай вёскі пайшлі ў літаратуру і пісьменства пісьменнік, Старшыня камітэта па правядзенні 480-годдзя беларускага кнігадрукавання Зіновій Прыгодзіч, паэтка Ніна Гарагляд, журналіст Іосіф Сярэдзіч. І літаратурная сустрэча ў школе атрымалася надзвычай цёплай, шчырай, яна надоўга запомніцца яе ўдзельнікам — як і храм, які доўга яшчэ, калі мы ад'язджалі, быў відзён над лесам.

З намі ў гэтай паездцы былі і тыя, хто адышоў у жыццё іншае — пісьменнікі Алесь Адамовіч і Мікола Арахоўскі, па якіх былі праведзены памінальныя ліціі. У вёсцы Сялец Бярозаўскага раёна, дзе пахаваны таленавіты драматург, мы сустрэліся з ягонымі бацькамі Вольгай і Аляксандрам Арахоўскімі, разам з імі ўсклалі кветкі да ягонай магілы — якраз каля белай стужкі, на якой напісаныя словы смутку артыстамі тэатра "Вольная сцэна". Як жа хочацца, каб сотні вясковых могілак, дзе пахаваныя людзі, якія ўнеслі свой талент у скарбніцу нацыянальнай культуры, (ды і проста любыя могілкі) былі добра дагледжаныя, каб прыходзілі туды вяскоўцы і прыязджалі з іншых мясцін тыя, чыё сэрца закрануў талент, які даецца не кожнаму! Быў жа некалі артыкул пра тое, што магіла Алеся



# У НЯСВІЖСКІМ КАСЦЁЛЕ



Нясвіж — даволі маляўнічае месца на беларускай зямлі —раскінуўся ля вытокаў ракі Ушы і з'яўляецца цэнтрам Нясвіжскага раёна. Тут захавалася нямала архітэктурных помнікаў, якія сведчаць аб той значнай ролі, якую ў мінулым адыгрываў Нясвіж на Беларусі. Сярод іх найбольшую цікавасць у турыстаў, вядома ж, выклікаюць феадальны замак Радзівілаў і езуіцкі касцёл. Замак пасля вайны быў заняты пад санаторый "Нясвіж", а вось касцёл дзейнічае і зараз. Кожны дзень у ім чытае месы рымска-каталіцкі ксёндз пробашч Гэнрык Акалатовіч, як і 400 гадоў таму пры князях Радзівілах гэта рабілі яго папярэднікі.

**— Ксёндз Гэнрык, калі ласка, раскажыце трошкі пра храм, у якім мы цяпер знаходзімся.**

— Наш нясвіжскі фарны парафіяльны касцёл пад назваю "Божага Цела" быў пабудаваны ў 1593 годзе італьянскім архітэктарам Янам Марыя Бернардоні. Усе гэтыя фрэскі і малявідлы, уся прыгажосць — гэта ўсё без змен захавалася да сённяшняга дня, як і было раней. Пры ўваходзе ў касцёл можна ўбачыць фотаздымкі, якія былі зроблены падчас другой Сусветнай вайны, калі касцёл быў спалены і разбураны. І толькі дзякуючы майму папярэдніку ксяндзу Каласоўскаму, які разам з парафіянамі за кароткі тэрмін зрабіў рамонт у касцёле, мы можам сёння бачыць усю гэтую прыгажосць. Пад касцёлам знаходзяцца скляпенні, дзе ў саркафагах пахаваны ўвесь род Радзівілаў. Усе яны былі забальзамаваныя. Там таксама знаходзіцца алтар, на якім мой папярэднік, а цяпер і я адпраўляю Святую Імшу і іншыя набажэнствы. Молімся не толькі за Радзівілаў, але і за ўсіх вернікаў нашай нясвіжскай парафіі.

**— Не сакрэт, што Радзівілы жывуць зараз за мяжой.**

— Так. У 1993 годзе мы спраўлялі вялікі юбілей нашага касцёла і ўсёй нашай парафіі — 400-годдзе касцёла. Я запрасіў, і прыехала больш за 20 чалавек з сям'і Радзівілаў з усяго свету — з Англіі, Польшчы, Амерыкі, Францыі, каб наведаць сваю родную зямлю.

**— Раскажыце, ці вялікі ў вас прыход?**

— На сёняшні дзень парафія налічвае больш за 1000 вернікаў. Было больш, але дзякуючы так званай перабудове, якая пачалася амаль 10 гадоў таму, многія касцёлы ў нашым нясвіжскім дэканаце былі вернуты вернікам, як, напрыклад, касцёл у Снове, у Сейлавічах. Яны аддзяліліся ад нас у свае парафіі, і толькі ўжо на вялікія святы вернікі наведваюцца сюды, у нясвіжскі касцёл.

**— А сярод вашых вернікаў многа моладзі?**

— Так, дзякуючы таму, што ёсць сёстры-манашкі, якія вось ужо шосты год працуюць у нас і вядуць рэлігійную школку. Я магу сказаць, што і дзяцей, і моладзі, і людзей у сярэднім веку шмат у нашым касцёле, дзякуй Богу.

**— З верасня пачнуцца заняткі ў школцы, а пакуль у дзяцей канікулы, так?**

— Кожны год сёстры-манашкі вядуць з ксяндзом душпастарскую дзейнасць сярод дзяцей. Праз увесь год вучаць асновы хрысціянства. Не ідзе гаворка пра каталіцызм, а ідзе гаворка пра хрысціянства, бо шмат дзяцей прыходзіць з праваслаўных сем'яў і з сем'яў няверуючых. А летам праводзяцца "канікулы з Богам". Сёстры зрабілі лагер, дзе дзеці ўвесь дзень знаходзяцца пад апекаю сясцёр, пад апекаю касцёла. Таксама сёстры нашай парафіі вядуць курсы падрыхтоўкі да шлюбу, да хрышчэння. Касцёл хоча, каб дарослыя людзі разумелі, які крок яны робяць.

**— На якой мове чытаюцца набажэнствы ў касцёле?**

— Кожную нядзелю ў касцёле дзве Святыя Імшы, бо пасля я еду на вёскі ў іншыя касцёлы. У нясвіжскім касцёле першая Імша (у 9 гадзін) толькі на беларускай мове і другая Імша (у 12 гадзін) толькі на польскай. У мяне правіла такое: я не хачу дыктаваць, на якой мове маліцца людзям, я хачу, каб людзі дыктавалі мне. Калі прыходзяць на Імшу, на хрышчэнне, шлюб ці пахаванне, першае, што я пытаюся: на якой мове будзем маліцца. У біблії напісана, каб бласлаўлялі і хвалілі Бога на кожнай мове. Я хачу, каб кожны чалавек, калі моліцца, разумеў, аб чым ён моліцца і што ён гаворыць.

**— Ксёндз Гэнрык, скажыце, касцёл за ўсе 400 гадоў свайго існавання належаў толькі вернікам?**

— Так, толькі вернікам. Не было такога перыяду, часу, каб гэты касцёл быў забраны ад парафіі, ад вернікаў. Былі, як расказваў мне мой папярэднік ксёндз Каласоўскі, і ў 60-я, і ў 70-я, і на пачатку 80-х гадоў спробы, каб зрабіць з гэтага касцёла музей. Ну, канешне ж, ксёндз не пагадзіўся на гэта. Але цяпер пэўныя людзі таксама робяць захады, каб ксёндз перадаў касцёл у дзяржаўны заказнік "Нясвіж", які быў створаны некалькі гадоў таму. Мой пункт гледжання на гэта такі: я ксёндз, а гэты касцёл належыць не мне, а парафіі, вернікам, і я не маю права паставіць подпіс, каб перадаць гэты касцёл на якую-небудзь дзяржаўную ўстанову — ці на музей, ці на канцэртную залу, ці на нейкую мастацкую галерэю. Гэта справа вернікаў.

**— Цікава, а як даглядаюцца пахаванні Радзівілаў?**

— Праз усё лета, пакуль цёпла, вокны ў скляпеннях адчынены, каб цёплае паветра ўсё высушвала. Раз на тыдзень вернікі сходзяць туды ўніз, падмятаюць, чысцяць, прыбіраюць. Мы адпраўляем там набажэнствы. А ўжо пад восень, пад зіму, калі прыхозяць халады, мы зачыняем вокны і робім генеральную ўборку. На жаль, ёсць такі клопат, як экскурсіі. Дзеці з гэтых экскурсій б'юць шкло ў вокнах, бо ім трэба паглядзець што там у скляпеннях. За лета нам трэба шкліць вокны больш за 200 разоў. Але мы вельмі рады, што людзі прыязджаюць. Ніхто не супраць. Мы не ўлазім ні ў чые справы — ні ў справы замка, ні запаведніка, — бо гэта не нашыя справы. Наша справа — парафія, касцёл, Бог, біблія. Яшчэ хадзілі чуткі па парафіі, што ксёндз вывез за мяжу пяць саркафагаў і іншыя рэчы з касцёла. Была складзена камісія, і пані Высоцкая, прафесар, паглядзела, праверыла — усё на месцы.

**— Я ведаю, што ў касцёле ёсць старажытны арган. Сёння мне, на жаль, не давялося яго паслухаць. І ўсё ж такі, калі можна будзе пачуць цудоўную арганную музыку?**

— Так, сапраўды, у нас ёсць арган, які дзейнічае. Але сястра-манашка, якая працуе арганісткай, вельмі моцна захварэла. Мы молімся, каб яна хутчэй вярнулася да парафіі і зноў у нашым касцёле загучала прыгожая музыка аргана.

**— З гэтым арганам звязана цікавая гісторыя, што здарылася ў час другой Сусветнай вайны. Можа вы раскажаце пра гэта.**

— Ксёндз Каласоўскі, мой папярэднік, расказваў, што быў такі загад немцаў, каб усе каляровыя металы, якія былі ў людзей, здалі ў камендатуру. У аргане ёсць трубкі з медзі, бронзы, алюмінія, якія таксама трэба было б здаваць. У той час у камендатуры працаваў рускі чалавек. Ксёндз з ім дамовіўся і той

Адамовіча ў вёсцы Глуша занядбаная, і добра, што сёлета ездзілі да яе сталічныя інтэлігенты — але ж толькі на месцах могуць па-сапраўднаму паклапаціцца пра тое, каб не зарасталі быльнягом святыя для беларусаў месцы! А для гэтага, мабыць, трэба, каб не толькі царква далучалася да нас, але і мы да яе, каб разам будавалі тое, што робіць нас людзьмі. Пра гэта казаў Васіль Каткавец, рэжысёр узорнага тэатра "Лятуценнік" з вёскі Сарачы Любанскага раёна, які паставіў спектакль паводле п'есы "Сінязорка" прысутнай сярод нас Зінаіды Дудзюк. Спектакль гэты яны разыгралі перад Мірскім замкам, на фоне аднолёных белачырвоных вежаў. Гэтай паэтычнай нотай прадоўжылася наша навукова-творчая экспедыцыя, якая скончылася ў Нясвіжы. А пачалася яна ў Свята-Духавым саборы сталіцы службай на беларускай мове і блаславеннем патрыяршага экзарха ўсяе Беларусі Філарэта. Там жа дарэчы, знаходзіўся і крыж-копія славутага крыжа Еўфрасінні Полацкай. Можа, і яна, святая апякунка Беларусі, зрабіла так, што даволі цяжкі шлях (за пяць дзён удзельнікі экспедыцыі наведалі 14 прыходаў) стаўся радасным і ўзнёслым, а беларускае слова прымалася ўсюды з пашанай і ўвагай — на роднай мове гаварылі прадстаўнікі ўлады, некаторыя святары (асабліва запамінальнай была сустрэча з пінскім епіскапам Стэфанам), пісьменнікі ж і артысты нагадвалі пра 480-годдзе беларускага кнігадрукавання і вечныя каштоўнасці народа, які перажыў жахлівыя часы і мусіць рабіць усё, каб адрадзіцца.

"Разам з іншымі малюся за наш беларускі народ, за захаванне яго самабытнай мовы і культуры, яго гісторыі", — казала на сустрэчы з вернікамі і чытачамі пісьменніца Вольга Іпатава. Гэтая ж думка была лейтматывам выступленняў Ніны Загорскай, якая вось ужо чацвёрты год з'яўляецца душой і ініцыятарам экспедыцыі.

І таму зусім натуральнай на заканчэнне сустрэчы ў Доме культуры ў горадзе Белазёрску, дзе рэй бліскуча вяла Ніна Мацяш, была малітва, што пачыналася словамі "Магутны Божа, уладар Сусвету" і якую радок за радком паўтарала зала.

І, магчыма, менавіта з-за гэтага задуманы мною рэпартаж пра Свята пісьменства і друку ў Нясвіжы атрымаўся рэпартажам пра падарожжа адной экспедыцыі.

А Нясвіж... Можна шмат гаварыць пра грандыёзнае відовішча, якое віравала на ягоных вуліцах і ў старажытным парку і было старанна падрыхтавана мясцовымі ўладамі пры ўдзеле самых высокіх. Яно сапраўды ўражвала.

Але там не хапала, на нашу думку, самага галоўнага —пісьменнікаў. Як і летась, спявалі, танчылі, рабілі замкі з пяску, елі блінцы і пілі піва, прадавалі народныя вырабы і частавалі гасцей. Але Слова — тое Слова, дзеля якога праводзілася свята, якое ствараюць сваімі творамі і размовай з чытачом самі творцы, — яно не адчувалася на Свяце пісьменства і друку.

Што ж — магчыма, яно вернецца, як вернуцца тыражы беларускіх кніг, як вернецца сапраўдны клопат дзяржавы пра нацыянальныя школы ў гарадах і вёсках. Шлях да святыняў у нас вельмі няпросты. Хай толькі не згасае лампада духоўнасці ў душы кожнага з нас...

**Ягор ФЯДЗЮШЫН**

---

выдаў пасведчанне, што арганныя трубкі здалі і адправілі ў Баранавічы, а адтуль ужо на Нямеччыну. Ксёндз расказваў сам, як да яго прыйшоў нямецкі камендант: "Ксёндз, здалі?" Ксёндз адказвае, што здаў. Пайшлі правяраць у касцёл, зайшлі наверх, на хоры — усё, як і павінна быць, пустое. Ксёндз паказаў даведку і на гэтым скончылася. А пасля вайны ксёндз запрасіў майстроў з Літвы, якія прыехалі, паставілі і вось — гучыць. Калі Нясвіж вызвалілі ад немцаў, прыйшла Савецкая армія і органы СМЕРШа. Раптам ксяндза выклікаюць, паказваюць таго чалавека і пытаюцца: "Ці вы яго ведаеце?" Ксёндз расказаў тады, як гэты чалавек не адмовіў і дзякуючы яму захаваўся арган. Праз некалькі дзён сустракае ксёндз гэтага чалавека на вуліцы, які яму кажа: "Дзякую вам, ксёндз, за тое, што вы мяне выратавалі". Ну а ксёндз адказаў так: "Не я выратаваў, але ваш учынак выратаваў. Вы зрабілі, а я гэта толькі пацвердзіў". Вось такая гісторыя была.

**— У 1944 годзе быў пажар у храме. Хто яго ратаваў?**

— Вернікі і ксёндз. Ксёндз расказваў, было лета, спякота. Раптам, прыбягае чалавек: "Ксёндз, трапіў снарад у касцёл! Касцёл загарэўся!" Пачалі біць у звон і хаця блізка фронт, людзі папрыбягалі і пачалі тушыць пажар. На жаль, згарэў дах, шмат іншых рэчаў, згарэў увесь архіў. Полымя, як кажуць, не выбірае. Але ўсё тое, што мы сёння бачым, усе гэтыя фрэскі —гэта ўсё захавалася. За тры з паловай месяцы парафіяне пад кіраўніцтвам ксяндза Каласоўскага адрэстаўравалі і адрамантавалі касцёл.

**— Ці дазваляецца спускацца ў пахаванні Радзівілаў?**

—Гэта святое месца, не музей. З пункта гледжання касцёла, рэлігіі — гэта могілкі і там трэба толькі маліцца. Як гэта можна нейкія экскурсіі на могілкі рабіць — мне гэта незразумела. Але, бывае, спецыялісты прыязджаюць, людзі, якія звязаныя з гэтым. Ну то чаму ж не? Няма такога, каб ксёндз каму-небудзь адмовіў. Касцёл — гэта святое месца, якое адчынена для ўсіх.

**Аляксандра ХАРЫТОНЧЫК,**
**фота Генадзя ЖЫНКОВА**



# КАЛІ КНІГА ЗАХОЎВАЕ НАРОД



У рамках Тыдня габрайскай кнігі на Беларусі прайшла выстава габрайскай літаратуры з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі "Кніга захавала народ". На ўрачыстым адкрыцці 8 верасня прысутнічалі і выступалі: Леанід Лыч, прафесар, доктар гістарычных навук; Эмануіл Іофэ, прафесар, доктар гістарычных навук; Леанід Левін, прэзідэнт Беларускага аб'яднання габрайскіх арганізацый і суполак; доктар Зееў Абрамсон; Іна Герасімава, кандыдат гістарычных навук, прадстаўніца Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра ў РБ; Галіна Кірэева, галоўны бібліёграф аддзела рэдкай кнігі; Тамара Аксёнава, намеснік дырэктара па бібліятэчнай рабоце. Выступоўцамі было выказана нямала цёплых словаў у адрас беларускага народа і супрацоўнікаў Нацыянальнай бібліятэкі, у прыватнасці. З мэтай пашырэння кнігазбору габрайскай літаратуры бібліятэцы было падорана некалькі дзесяткаў кніг.

**Галіна Кеслер, Першы сакратар амбасады Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь:** "Фестываль габрайскай кнігі, што адбываецца цяпер у сталіцы Беларусі — гэта яшчэ адно звёна ў шматвекавым залатым ланцугу, што звязвае нашы культуры, нашы традыцыі. Беларуская зямля, якая ўзгадавала такіх карыфееў як Янка Купала, Якуб Колас, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Максім Багдановіч, Сяргей Грахоўскі і шмат іншых, дала жыццё Мендэлю Мойхер-Сфорыму, Змітраку Бядулі, Эдзі Агняцвет, Рыгору Рэлесу, Навуму Кісліку. І вельмі сімвалічна, што наш тыдзень адкрыўся ў дзень грандыёзнага свята — Дня беларускай пісьменнасці і друку.

З першых дзён дзейнасці Амбасады Ізраіля ў Рэспубліцы Беларусь мы імкнемся пашыраць і паглыбляць традыцыйныя сувязі нашых старажытных культур. У сакавіку 1994 г. навукова-асветніцкаму цэнтру імя Францыска Скарыны было падорана факсімільнае выданне пяці кніг Старога Запавету, перакладзенага ў XVI стагоддзі габрайскімі праведнікамі на старабеларускую мову.

У красавіку 1995 г. выдавецтву "Беларуская Энцыклапедыя" перададзена сем тамоў Кароткай габрайскай энцыклапедыі, выдадзенай у Ізраілі.

У 1996 г. сем тамоў габрайскай энцыклапедыі і частка кніг з экспазіцыі выставы, прысвечанай 3000-годдзю Іерусаліма перададзена Нацыянальнай бібліятэцы РБ. Сёння, працягваючы гэтую традыцыю, я перадаю наш сціплы дар. Гэта кнігі па гісторыі і геаграфіі нашй краіны. Улічваючы значны інтарэс беларусаў да Ізраіля, я нават не сумняваюся, што гэтыя кнігі знойдуць свайго чытача".

**Іна Герасімава, кандыдат гістарычных навук, дырэктар адукацыйных праграм Ізраільскага культурна-інфармацыйнага цэнтра ў РБ:** "Калі я рабіла дысертацыю па тэме "Гісторыя габраяў у Беларусі", я ўбачыла шмат літаратуры, аб якой ніхто не ведаў, якой няма больш нідзе на тэрыторыі былога СССР. Калі я прыязджала ў Ізраіль і распавядала, якія кнігі ёсць у Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, там усе вельмі здзіўляліся. Я была членам арганізацыйнага камітэта Тыдня габрайскай літаратуры на Беларусі і прапанавала зрабіць гэтую выставу. Я вельмі ўдзячна супрацоўнікам бібліятэкі за тое, што яны адгукнуліся на нашу прапанову і зрабілі гэтую выставу з разуменнем і ўвагай, бо гэта фактычна першая выстава такога кшталту. У ёй сабраныя рукапісы і кнігі, што прылічваюцца да XVII — XVIII стагоддзяў. Я вельмі задаволена, што гэтая выстава адбылася, бо яна паказала, што габрайская літаратура жыве, яна захавалася дзякуючы намаганням беларусаў, у той час калі паўсюль габрайскія кінгі знішчаліся. За гэта я вам, беларусам, вельмі ўдзячна.

**Міхась БАШУРА**

# СУБОТА

***(Свята нацыянальных меншасцяў — габраяў)***



**"У шэсць дзён стварыў Гасподзь неба і зямлю, а ў дзень сёмы перастаў працаваць і адпачываў". (Адыход 31:17)**

"Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мінск, 1996) вызначае слова "субота" так: "Шосты дзень тыдня, перад нядзеляй". І, канешне, гэты дзівосны даведнік нічога не гаворыць, чым яна, субота, з'яўляецца для нашых беларускіх габраяў, як раней пісалі і гаварылі, жыдоў. У маёй асабістай бібліятэцы пачэснае месца займае і цудоўнейшая кніга класіка беларускай літаратуры габрая Змітрака Бядулі (Самуіла Яфімавіча Плаўніка) "Жыды на Беларусі". Гэта так, габраі ў нашай краіне з сівой мінуўшчыны з'яўляюцца саставной і неад'емнай часткай народа Беларусі. І як у любой нацыянальнай меншасці гэтае свята мае свае адметнасці. Мы ўжо пісалі ("Культура", N 32'97) пра пятніцу, якую адзначаюць беларускія татары-мусульмане. А зараз раскажам аб самым адметным дні тыдня ў габраяў — субоце.

Субота па-габрайску — гэта шабат. Дзень адпачынку, спакою, цішыні, рэлігійнае свята духоўнага абнаўлення, удзелу ў хатніх і сінагагальных рэлігійных рытуалах. Гэта дзень адхілення ад будзённай мітусні. Адзначым таксама, што акрамя вернікаў іудаізму (рэлігія, пашыраная галоўным чынам сярод габраяў. — М.М.), суботу лічаць святам і некаторыя хрысціянскія секты, напрыклад, суботнікі і адвентысты сёмага дня.

У двух габрайскіх трактатах Талмуда (Шабат і Эрубін) пералічаны ўсе сорак без аднаго віду працы, якімі нельга займацца прававерным іудзеям у суботу. Дададзім, што ў дзяржаве Ізраіль гэта забарона мае сілу і моц закону.

З "Дзённіка 1994-1995", выдадзенага габрайскай арганізацыяй "Джойнт", я выпісаў: "Помні дзень суботні, каб асвяціць яго. Шэсць дзён працуй і рабі ўсякую справу тваю, а дзень сёмы — субота, Госпаду, Богу тваяму: не рабі аніякай справы ні ты, ні сын твой, ні дачка твая... так як у шэсць дзён стварыў Гасподзь неба і зямлю, мора і ўсё, што ў іх, і адпачываў у дзень сёмы. Пагэтаму благаславіў Гасподзь дзень суботні і асвяціў яго". (Шмот, 20, 8-11.)

Як напамінак аб адыходзе з Егіпта, субота падкрэслівае свабоду чалавека.

Надыход суботы апавяшчаецца запаленнем свечак, гэта абавязкі маці сямейства".

Дык што забараняецца рабіць іудзеям у суботу? — Прасці, сеяць, жаць, вязаць снапы, малаціць, веяць, выбіраць зерне з саломы, малоць, прасейваць муку, мясіць цеста, пячы, стрыгчы авец, адбеліваць, біць або афарбоўваць шэрсць (воўну), ткаць, рабіць дзве пятлі, аплятаць дзве ніці, расплятаць дзве ніці, завязваць (вузел), развязваць (вузел), рабіць два сцяжкі, паляваць на газель, забіваць, свежаваць або засаліваць яе, апрацоўваць скуру, скабліць або рэзаць яе на шматкі, пісаць дзве літары, сціраць, каб пісаць дзве літары, будаваць, зносіць (будынак), тушыць агонь, раскладаць агонь, біць малатком, пераносіць што-небудзь з аднаго ўладання ў другое. Вось такія 39 катэгорый працы: сорак без адной.

Калі я прыйшоў у грамадскае аб'яднанне "Клуб габрайскай культуры "Шалом" Баранавічаў, дык мяне там ласкава сустрэлі яго кіраўнік Любоў Яўсееўна Львова і старшыня аб'яднання мясцовага прагрэсіўнага іудаізму Рэгіна Самуілаўна Жыгарава, якія мне шмат чаго расказалі аб правядзенні субот сярод габраяў горада і раёна. Але найбольш уразіў мяне іх аповед "Што можа азначаць Шабат?" Адразу адзначу, што яны пераказалі мне яго з кнігі "Брамы Шабата" (Кіраўніцтва па выконванню шабата), выдадзенай у 1994 годзе ў Нью-Ёрку на рускай мове. Дык вось гэты расказ:

"У адзін з дзён нядзелі, раніцай, з акна свайго дома, настаўнік-хасід Нахман з Браслава ўбачыў свайго вучня Хаіма, які хутка ішоў па вуліцы.

Рабін Нахман адчыніў акно і запрасіў Хаіма зайсці ў дом, і Нахман сказаў яму: "Хаім, ці бачыў ты сёння раніцай неба?" "Не, рэбе", — адказаў Хаім. "Ці бачыў ты гэтым ранкам вуліцу?" — "Так, рэбе". — "Скажы мне, калі ласка, Хаім, а што ты бачыў на вуліцы?" — "Я бачыў людзей, павозкі і тавары. Я бачыў гандляроў, якія прыходзілі і адыходзілі, прадавалі і куплялі". — "Хаім, — сказаў Нахман, — праз 50 гадоў, праз 100 гадоў на гэтай самай вуліцы будзе базар. Іншыя павозкі прывязуць тады на гэтую вуліцу гандляроў з таварамі. Але не будзе тутака мяне, не будзе і цябе. Дык я пытаюся ў цябе, Хаім, ШТО ДОБРАГА Ў ТВАЁЙ СПЕШЦЫ, КАЛІ Ў ЦЯБЕ НАВАТ НЯМА ЧАСУ ЗІРНУЦЬ НА НЕБА". Дык вось гэтую звышзадачу ў іудаізме, на мой погляд, і вырашае субота — Шабат...

Як напісана ў Бібліі (Кнігах: — М.М.): "Бо ў шэсць дзён стварыў Гасподзь неба і зямлю, мора і ўсё, што ў іх, і адпачываў у дзень сёмы. Таму благаславіў Гасподзь дзень суботні і асвяціў яго". (Пераклад мой. — М.М.) Зыходзячы з гэтага сцверджання, што свята суботы — Шабат зроблена Богам, вось такая пашана да яго ў іудзеяў.

А нам яшчэ цікава, адкуль старажытныя габраі ўзялі яго. Навуковая літаратура на гэты конт гаворыць: "У сапраўднасці свята суботы ідзе ад культу Месяца, які быў шырока распаўсюджаны сярод народаў Старажытнага Усходу. Як відаць, прататыпам іудзейскай суботы з'яўляўся старажытнававілонскі Шабату —"дзень святкавання поўні". Вавілоняне ўстрымоўваліся ад працы па 7, 14, 21 і 28 лічбах двух месяцаў (элуль, маркесван), лічачы іх нешчаслівымі днямі. Вавілоняне запазычылі Шабату ў шумераў, у вавілонян яго ўзялі ханаане, у апошніх — старажытныя габраі. Па намаўленні іудзейскіх жрацоў і прарокаў згаданыя лічбы ў адпаведнасці з чатырма фазамі Месяца і пачалі лічыць днямі адпачынку і падзякі Богу Яхве".

Для таго, каб я яшчэ лепш успрыняў і адчуў для сябе ўсю прыгажосць і адметнасць суботы — Шабата, Любоў Яўсееўна і Рэгіна Самуілаўна "ўзброілі" мяне вельмі цікавай літаратурай, а найбольш я карыстаўся пры напісанні гэтых нататак "Брамамі Шабату" і малітоўнікам "Праца душы", выдадзенымі, канешне, на рускай мове, бо пакуль што нашыя габраі не пераклалі іх на беларускую. У кнізе "Брамы Шабату" распісана ўсё, але жыццё ёсць жыццё. І мне вельмі спадабалася адтуль частка "Тры габраі —тры мадэлі працы і адпачынку на Шабат": правядзенне субот рэфармісцкімі іудзеямі.

...Мне заўсёды лёгка і прыемна бываць у маіх сяброў-габраяў. Так, з мясцовым "Шаломам" неаднойчы праводзіў сумесныя мерапрыемствы, а ў свайго старога і надзейнага сябра, выдатнага журналіста, паэта і пісьменніка Аркадзя Якаўлевіча Капілава неаднойчы гасцяваў менавіта ў суботу і заўсёды ў яго сям'і адчуваў сябе, як самы родны і блізкі чалавек. Такая духоўная блізкасць і роднасць беларусаў і габраяў і падкрэслівае іх старажытную, сучасную і будучую еднасць і брацтва.

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства, г.Баранавічы**

# КУЛЬТУРА





## Феномен ДЖАКОНДЫ: абаяльнасць ці хвароба?

Таямнічая ўсмешка Джаконды... Колькі напісана-перапісана пра гэтую ўсмешку! Колькі мастацтвазнаўчых пер'яў зламана, каб разгадаць, што ж крыецца за гэтай усмешкай, якая хавае таямніцу незразумелай чароўнасці, — "таямніцу стрыманага сэрца"?

Версій назапашана шмат. Была і такая: гэта аўтапартрэт самога Леанарда да Вінчы, альбо, прынамсі, партрэт пераапранутага мужчыны.

Меркавалі, што Джаконда цяжарная ці што яна — касавокая. Казалі, што гэта партрэт 26-гадовай жыхаркі Фларэнцыі Моны Лізы Герардзіні. Іншыя сцвярджалі — не, гэта каханка магутнага Джуліяна Медзічы, паводле замовы якога Леанарда і напісаў гэты партрэт. Аб гэтым нібыта сведчыць сакратар кардынала Арагонскага Антоніо дэ Беатыс: "У адным з прадмесцяў (Амбруаза. — Б.К.) пан (кардынал. — Б.К.) з намі, грэшнымі, паехаў наведаць пана Лунарда Вінчы — фларэнтыйцастарца... найвыдатнейшага жывапісца нашага часу. Апошні паказаў ягонай светласці тры карціны — адну з выявай нейкай фларэнтыйскай дамы, напісаную з натуры згодна з просьбай нябожчыка Джуліяна Медзічы Цудоўнага". Праўда, мы не ведаем: ці "Джаконду" меў на ўвазе шаноўны Антоніо дэ Беатыс?

Нехта называе іншыя імёны партрэтуемай — жанчын адукаваных і слынных, вядомых у сваю эпоху, але гэта таксама не дакладна...

Так альбо інакш, але эпітэты "звышнатуральны", "нібыта створаны не рукой чалавека", "загадкавы" — спадарожнічалі партрэту "Джаконды" чатыры стагоддзі. Так, Джорджа Вазары пісаў: "...у гэтым твары вочы валодалі тым бляскам і той вільготнасцю, якія мы бачым у жывым чалавеку". Бернард Бернсан: "За выключэннем Веласкеса, Рэмбранта і Дэга, мы марна будзем шукаць такую глыбокую і пераконваючую нас відавочную каштоўнасць, як у "Моне Лізе" Леанарда".

Іншыя меркаванні: "Твар жанчыны адлюстроўвае няўлоўныя рухі душы і думкі", "Джаконда" — першы ў заходнееўрапейскім жывапісе псіхалагічны партрэт", "Слава карціны такая вялікая, што многія лічаць за мэту жыцця пабачыць яе", "Цудоўныя, мяккія, здзіўляюча жаноцкія рукі", "Ніхто з жывапісцаў не дасягаў такога майстэрства ў перадачы эмацыйнага свету чалавека, у ягонай псіхалагічнай характарыстыцы", "У карціне адбіліся вера і сумненне, скепсіс і развагі пра хуткаплыннасць жыцця".

Што я магу да ўсяго гэтага дадаць? Напэўна, нічога, акрамя таго, што ў свой час выстаяў вялізную чаргу ў Пушкінскі музей, каб зірнуць на знакамітую Джаконду, якую прывезлі ў Маскву з Луўра... Сапраўды, уважліва ўгледзеўшыся ў яе, ужо ніколі не забудзешся на гэтую не вельмі маладую і не вельмі прыгожую даму ў цёмнай удовінай вопратцы на фоне рамантычнага пейзажу...

І ўсё ж такі: у чым яе таямніца? У чым яе такая магічная прыцягальная моц? Ну, добра, мастацтвазнаўцы ўсіх часоў і народаў спрабавалі адказаць на гэтае пытанне, хаця і не вельмі пераканаўча...

А што думаюць на гэты конт "не мастацтвазнаўцы"?

Трыццаць гадоў таму англійскі фотамайстар Лео Вала прыдумаў сістэму разліку, паводле якой можна ператварыць выяву анфас у фатаграфію ў профіль і тры чвэрці. Гэтую сістэму вырашылі выпрабаваць на "Джакондзе". Вынік пераўзышоў усе чаканні. Аказваецца, Джаконда пакутавала на хваробу Дауна! Урач з Даніі Фін Бекер-Хрысціянсен дваццаць два гады таму паставіў свой дыягназ гэтай жанчыне: прыроджаны паралюш твару. Паводле ягонага меркавання, Джаконда ўсміхаецца толькі правым бокам, левы ж у яе проста перасмыкнуты! Падобная асіметрыя сведчыць пра тое, што ў чалавека ёсць адхіленні ў псіхіцы. Датчанін перакананы: яна — ідыётка!

Нядаўна з аналагічнай гіпотэзай выступілі скульптар і два ўрачы з французскага горада Ліёна. А.Рош, прафесар школы мастацтваў, вырашыў увасобіць твор Леанарда да Вінчы ў белым мармуры. Аднак, як толькі ён пачаў працу, адразу зразумеў, што перанесці вобраз Джаконды ў трохмерную прастору не рэальна, Бо з фізіялагічнага пункта погляду ў яе ўсё няправільна: і твар, і плечы, і рукі...

Пра свае няўдалыя спробы вылепіць правую руку Джаконды скульптар распавёў Анры Грэпо, тэрапеўту, які займаецца пазваночнікам, і прафесару Жан-Жаку Кантэ, вядомаму спецыялісту ў галіне мікрахірургіі.

Пасля шматлікіх і дакладных аналізаў яны вызначылі, што правая рука загадкавай жанчыны не абапіраецца на левую: яна бяссільна ляжыць, слабая і інертная. Чаму? Альбо з прычыны сутаргі, альбо з прычыны таго, што яна карацей за другую руку. Так сцвярджае Грэпо. Карацей, правая палова мозга Джаконды была атрафіраваная, а ўсё яе цела — паралізаванае. Знакамітая ж усмешка — лімфатычная сутарга, і яе загадкавасць выклікана тым, што частка мускулаў твару бяздзейнічае.

Ці можна "аспрэчыць" гэты "прысуд" французскіх спецыялістаў? Магчыма. А калі так, дык можна пачынаць усё спачатку і высоўваць новыя версіі, нават самыя нечаканыя.

Аднак усмешка Джаконды застаецца. І незалежна ад прыроды свайго паходжання яна прываблівае людзей на працягу амаль пяці стагоддзяў, захоўваючы сваю таямніцу. І не толькі ўсмешка...

Леанарда паказаў сябе ў "Джакондзе" геніяльным майстрам дымчатага светлапісу — sfumato: "... каб цені і святло зліваліся без ліній і контураў". І сапраўды, калі я ў Пушкінскім музеі глядзеў на партрэт, вока не калолася аб грубы мазок альбо вострую лінію: дзякуючы найпяшчотным ценям усё нібыта рухалася і пульсавала, мяняючы абрысы ў залежнасці ад руху: "сімвал неперарыўнасці жыцця".

... Пасля смерці Леанарда карціну прадалі французскаму каралю за чатыры тысячы дукатаў. Цяпер яна знаходзіцца ў Луўры і яе ацэньваюць у пяцьдзесят мільёнаў старых франкаў, хаця, па сутнасці, ёй няма цаны...

**У загадкавы твар узіраўся**
**Барыс КРЭПАК**

## ЗОРКІ — ЗОРКАМ:
## астрапсіхалагічны прагноз для творчых людзей на перыяд з 15 па 21 верасня

*Тыдзень з 15 па 21 верасня будзе дваістым. У ягонай першай палове многія будуць здольныя на незразумелае супрацьстаянне ўсяму агульнапрынятаму. Жаданне звыш меры прадэманстраваць уласную арыгінальнасць можа стаць перашкодай для нармальных стасункаў. У сярэдзіне тыдня маральна-псіхалагічная атмасфера пачне паступова выроўнівацца, а другую яго палову можна назваць спрыяльнай. Шмат хто з нас будзе ў гэты час здольны на дабрачынныя дзеянні і акты міласэрнасці і ўсепрыняцця. Не апошняе месца зоймуць тэмы рэлігіі, філасофскіх пошукаў, імкнення да ідэалаў. Большасці з нас будзе карысна ў гэты час наведаць храм.*

АВЕН: У першай палове тыдня ваша жаданне штосьці змяніць да лепшага можа ператварыцца з прычыны непрадбачаных абставін у разбуральныя для вас і вашага атачэння выхадкі. Пакіньце ў гэты час усё як ёсць. Імкніцеся ператварыць разбуральную энергію жаданняў у разумную ініцыятыву для дасягнення больш высокага ўзроўню майстэрства.

ЦЯЛЕЦ: З прычыны незразумелых, на першы погляд, выпадковасцяў у першай палове тыдня пад пагрозай могуць апынуцца важныя сустрэчы і кантакты на роўных. Каб пазбегнуць непаразуменняў, што перарастаюць у канфлікты, пажадана перанесці гэтыя справы на другую палову тыдня. У гэты час вы будзеце больш чулымі і далікатнымі.

БЛІЗНЯТЫ: Незадаволенасць узроўнем уласнага майстэрства можа спадарожнічаць вам у першай палове тыдня. Прычынай гэтага здольныя стаць вашыя раптоўныя, сумбурныя жаданні штосьці перарабіць дзеля дасягнення, на вашу думку, найбольшай гармоніі. Здолейце ўтрымаць сябе ў руках і накіруйце вашу ініцыятыву ў рэчышча традыцыі.

Для РАКАЎ гранічна непажаданая гучная дэманстрацыя ўласных твораў, а бурлівыя раманы і залішняя бяздумнасць пагражаюць цалкам непрадказальнымі як для вас, так і для вашых твораў наступствамі. Дачакайцеся другой паловы тыдня, калі вашыя прамовы з'явяцца задавальненнем і лякарствам, а стасункі з вамі дабратворным актам для многіх з нас.

ЛЕЎ: Няўстойлівасць ва ўласных пачуццях і перажываннях можа стаць прычынай тлуму і непатрэбных высвятленняў адносінаў з жорсткімі прыхільнікамі ўсяго традыцыйнага ў першай палове тыдня. З той жа прычыны вы можаце няправільна ацаніць свае здольнасці і магчымасці, што прывядзе да непрыемнасцяў. Калі вы не пажадаеце чула паставіцца да ўласных эмоцый, вашы творчыя памкненні рызыкуюць называцца "сізіфавымі".

ПАННАМ у першай палове тыдня пажадана да мінімуму абмежаваць кантакты з аўдыторыямі, асабліва гэта датычыцца чытання ўсялякіх лекцый, даследчых дакладаў, рэфератаў і розных творчых справаздач. Пачакайце з вышэйпамянёнымі мерапрыемствамі да другой паловы тыдня, калі ваша мова будзе мець усе шансы застацца зразумелай.

ШАЛІ: Імкніцеся на першую палову тыдня не будаваць ніякіх планаў наконт рэалізацыі вашых твораў. Жыццё ўнясе ў гэтую справу ўласныя непрадказальныя карэктывы. Не перажывайце, калі вынікі будуць не на вашу карысць, жыццё пакіне вам роўна столькі, колькі вам сапраўды неабходна. У другой палове тыдня вы здолееце адкрыць многае, што вам пакуль было не вядома ва ўласных глыбінях, пасля чаго для вас стануць зразумелымі матывы многіх вашых жаданняў і ўчынкаў, а вашыя задумы пасля гэтага набудуць больш трывалы падмурак.

СКАРПІЁН: Паспрабуйце ўтрымаць душэўную раўнавагу ў першай палове тыдня. Раптоўныя, непадуладныя лагічнаму асэнсаванню перапады настрою могуць стаць прычынай парушэння бадзёрасці духу, а моцная эмацыйная прывязанасць да экстравагантнасці будзе здольная перашкодзіць рэалізацыі доўгатэрміновых планаў і стаць прычынай неразумення з боку калег. Другая палова тыдня дазволіць дзякуючы далікатнаму інтуітыўнаму аналізу інфармацыі, што прыходзіць да вас, выправіць сітуацыю і нават змяніць яе на сваю карысць.

СТРАЛЕЦ: У першай палове тыдня розныя закулісныя дзеянні, ананімная крытыка і хітрыкі нядобразычліўцаў могуць прынесці вам зусім не тыя вынікі, на якія вы разлічвалі. Не разменьвайцеся ў гэты час на дробязі, гэты перыяд спрыяльны для рэалізацыі здаровых памкненняў. Менш філасофствуйце, а больш увасабляйце задуманае на працягу другой паловы тыдня.

КАЗЯРОГ: Раптоўныя і не зусім прыемныя жыццёвыя карэктывы могуць адчуць на сабе вашыя задумы, доўгатэрміновыя планы і праекты на пачатку гэтага тыдня. Засцерагайцеся таксама і беспадстаўных сварак з братамі па творчасці. Залішняя эмацыйная прывязанасць да пачутага і прачытанага здольная стаць прычынай зрыву падарожжа альбо расчаравання ва ўласных жыццёвых поглядах. Між тым тыдзень можа стаць паспяховым для пашырэння кругагляду і перагляду сваіх жыццёва-філасофскіх прынцыпаў.

ВАДАЛЕЙ: Засцерагайцеся ў першай палове тыдня дэманстраваць тым, хто вакол вас, уласныя рэгаліі, не хваліцеся высокімі паклоннікамі і шчодрымі спонсарамі, а таксама сваімі славай ды папулярнасцю. Многія вашы намеры могуць з волі лёсу быць накіраваны супраць вас. Знайдзіце ў сабе душэўныя сілы стрымана і сціпла прыняць "падарункі лёсу". Спробу воляй ціснуць на падзеі і сітуацыю не прынясуць ў гэты час карысці. Ключавыя словы для вас на гэтым тыдні — сціпласць і пакорлівасць.

РЫБ у першай палове тыдня Можа напаткаць нечаканае расчараванне ва ўласных ідэалах і поглядах на жыццё. Адчайвацца з гэтай нагоды не варта, бо ўсё, у чым вы расчаруецеся, акажацца проста састарэлым і неадэкватным рэальнасці. Гэты тыдзень можа быць паспяховым для вырашэння даўно наспелых спрэчных пытанняў адносна аўтарскіх правоў і абавязацельстваў, а старая салдацкая прымаўка: "На службу не напрошвайся, але ад службы не адмаўляйся" можа стаць для вас лейтматывам дадзенага перыяду.

**Аляксей КАРПІНСКІ,**
**рэферэнт**
**"Акварыуніверсітэта".**


**КУЛЬТУРА**

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**





Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.





Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3480.

Падпісана ў свет 11.09.97. у 15.30.

Замова 5309

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**